ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 27 (2377) 7 ліпеня 1994 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 200 рублёў.



**3 ліпеня ў сталіцы Беларусі Мінску па старой савецкай традыцыі і ў старым стылі партыйных камуністычных часоў адбылося свята — 50-годдзе вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Прайшло яно пад старымі сцягамі, на якіх пераважаў чырвоны колер. Урачыстасці -- шэсці, мітынгі, сустрэчы ветэранаў з моладдзю, народныя гулянні -- прайшлі па буйнешых гарадах і вёсках і, нягледзячы на іх прапагандысцкую аднастайнасць, узварушылі нашу памяць, застрылі наш боль. Не дай Бог нікому і ніколі такое перажыць! Не дай Бог нікому дажыць да такой "светлай будучыні", да якой дажылі пераможцы -- ветэраны Вялікай Айчыннай вайны!..**

**НА ЗДЫМКУ: урачыстае шэсце ветэранаў па праспекце імя Ф.Скарыны да плошчы Перамогі ў Мінску.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*ДА ЎЗАЕМАЎЗБАГАЧЭННЯ КУЛЬТУР*

## ШЛЯХІ, ЯКІМІ ХОДЗЯЦЬ СУСЕДЗІ

**Апошнім часам грамадскасць беларускай сталіцы мела магчымасць прыняць удзел у мерапрыемствах культурна-асветніцкага характару, падставай для якіх сталі факты беларуска-польскіх адносін як мінулых часоў, так і сённяшняга дня. Пра іх -- наша гутарка з паслом Польшчы ў Беларусі спадарыняй Эльжбетай СМУЛЭК.**

**-- Спадарыня Смулэк, хоць беларусы ведаюць вас як навукоўца-беларусіста і як энтузіяста добрасуседскіх адносін народаў, хацелася б даць магчымасць нашаму чытачу скласці ўласнае ўражанне аб вашай дзейнасці як пасла.**

-- Як пасол, маю абавязак і з поўным перакананнем яго выконваю, працуючы на карысць усталявання якасна новых адносін паміж нашымі народамі, адносін рэальна братэрскіх ва ўмовах дзяржаўнага супрацоўніцтва дзвюх краін.

Супрацоўніцтва на роўных датычыць розных галін жыцця, а найперш эканомікі і культуры ў шырокім сэнсе, з чаго выцякаюць усе астатнія спецыялізаваныя кантакты.

**-- Спынімся на пытаннях культуры. Як вы ацэньваеце нашы кантакты ў гэтай галіне ў нядаўнім мінулым?**

-- Да часу дзяржаўнай самастойнасці Беларусі польска-беларускія кантакты развіваліся ў агульным плане супрацоўніцтва з Савецкім Саюзам. Добра памятаем часы, калі навукоўцы і культурна-асветніцкія дзеячы з Мінска ў Варшаву ездзілі праз Маскву! Гэта не пярэчыць факту, што і тады існавалі добрыя рабочыя кантакты. У некаторых выпадках, напрыклад, пры набыцці прэсы і кніжак яны былі больш простымі, чым цяпер, бо з абодвух бакоў існавала дзяржаўнае цэнтралізаванае іх размеркаванне. Але гэты спосаб дастаўкі друку меў адзін істотны недахоп -- накіраваную аднабаковасць, якая праяўлялася таксама ва ўсіх афіцыйных формах культурных сувязей.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

ТАКОЕ ЗАРАЗ ЖЫЦЦЁ

## ВЫГАДЫ І ПРЫЕМНАСЦІ АД БЕДНАСЦІ

Апошнім часам я адчуваю сябе чужой у сваёй краіне. А можа, наадварот, мая краіна стала чужой у адносінах да мяне і іншых сваіх грамадзян. Знаёмыя будынкі расквітнелі надпісамі на замежных мовах, на вуліцах, па якіх шмат год ездзілі толькі айчынныя аўтамабілі і аўтобусы, зараз, здаецца, "Мерседэсаў" больш, чым "Жыгулёў" і "Масквічоў". І цалкам незразумела, якія грошы лічыць сапраўднымі ў гэтай дзяржаве -- тыя, на якіх горда напісана "Разліковы білет Нацыянальнага банка Беларусі", але купіць на іх можна толькі "мокрую" каўбасу, ці іншыя, за якія купіць можна ўсё (толькі б яны былі!), але намаляваны на іх стаўшыя нам роднымі амерыканскія прэзідэнты і напісана "Казначэйства Злучаных Штатаў"? І хаця яркая замежная рэклама на непафарбаваных брудных трамваях і абшарпаных дамах сталінскай пабудовы выглядае, як сумесь амерыканскага са старадарожскім, не гэта вонкавае зараз турбуе і прымушае адчуваць сябе ў роднай краіне эмігрантам, які імкнецца падладзіцца пад невядомае жыццё і пераняць чужыя звычкі і норавы.

Вось у гэтым прыгожым будынку па вуліцы Сурганава заўсёды быў Мінскі абласны бібліятэчны калектар. Зараз над уваходам красуецца кокетлівы надпіс "Капрыз". А ў кніжным магазіне "Светач", што на праспекце Машэрава, сёння нешта сярэдняе паміж салонам па продажу мастацкіх вырабаў, аранжарэяй, вінагарэлачным аддзелам і магазінам гатовага адзення. Калі пашукаць, ёсць і кнігі, але аддзеныя для іх плошчы паступава скарачаюцца... Вядома, што ўсё гэта робіцца не ад добрага жыцця ці жадання зарабіць лішнія грошы. Проста ва ўмовах нашага рынку ў самым гаротным становішчы апынуліся ўстановы культуры. І з'яўленне камерцыйнай крамы "Капрыз" у памяшканні бібліятэчнага калектара, выбачайце за каламбур, ніяк нельга назваць капрызам яго супрацоўнікаў, хутчэй -- спробай выжыць... Больш таго, яго дырэктар Зінаіда Аўхінкова, падпісаўшы з камерцыйнай структурай дагавор аб арэндзе, зачынілася ў сваім кабінеце і доўга-доўга плакала. Успамінала, як усім калектывам дружна добраўпарадкавалі вестыбюль, дзе зараз размясцілася крама, што гандлюе абуткам, адзеннем і апаратурай. Але ж іншага выйсця не было: калектар у асноўным абслугоўвае бюджэтныя бібліятэкі, у якіх часта няма грошай, каб аплаціць заказаную літаратуру, а арэндная плата за будынак, электрычнасць, ацяпленне расце з кожным днём. Істотных жа льгот для ўстаноў культуры не прадугледжана, і датацый ад Міністэрства культуры яны не атрымліваюць, значыць, выйсце трэба шукаць самім. Так што, дзеля таго каб працягваць высакародную справу распаўсюджвання кнігі і несці веды народу, давялося пайсці на кампраміс з гандлярамі, і зараз вялікі выбар спіртных напіткаў на першым паверсе бібліятэчнага калектара нагадвае кожнаму, што не хлебам адзіным, хай і духоўным, жывы чалавек. Але ж дзіўныя метамарфозы і, як раней было прынята пісаць, "карэнныя змены" адбываюцца не толькі з установамі культуры.

12 чэрвеня неяк ціха і непрыкметна прайшоў 60-гадовы юбілей мінскага стадыёна "Дынама", хаця людзей у той дзень на знакамітым, алімпійскім стадыёне, думаю, было шмат. Ды наўрад ці хто-небудзь з наведвальнікаў самай буйной гарадской барахолкі ведаў пра гэты слаўны юбілей, бо стадыён ужо даўно перастаў быць сімвалам спорту і здароўя.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

# ПАСЛАННЕ
## МІТРАПАЛІТА МІНСКАГА І СЛУЦКАГА ФІЛАРЭТА, ПАТРЫЯРШАГА ЭКЗАРХА ЎСЯЕ БЕЛАРУСІ

### З НАГОДЫ 50-годдзя ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ АД НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ

Узлюбленая ў Госпадзе паства Беларуская!

У дні, калі мы ўшаноўваем 50-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, узмоцнім, браты і сёстры, нашыя малітвы за правадыроў, воінаў і мірных грамадзянаў, што загінулі за свабоду і незалежнасць нашай Айчыны.

Многія з іх, забітыя пры выкананні свайго хрысціянскага абавязку, прынялі мучаніцкі вянец. Я маю на ўвазе пастыраў і міранаў, што аддалі жыцці свае за веру, за праўду, за бліжняга, выконваючы Евангельскую запаведзь: "Няма большай за тую любоў, чым калі хто пакладзе душу сваю за сябраў сваіх" (Ін. 15, 13).

Сёння, 3 ліпеня 1994 года, -- другая нядзеля пасля Пяцідзесятніцы, дзень памяці Усіх Рускіх Святых, а гэта азначае, што мы звяртаемся з малітвай і да свяціцеля Кірылы Тураўскага, і да прападобнай Ефрасінні Полацкай, і да прападобнамучаніка Афанасія Брэсцкага, і да святой праведнай Сафіі Слуцкай, і да свяціцеля Георгія Магілёўскага -- да ўсіх святых, у зямлі Белай Русі праслаўленых. Яны жылі сотні гадоў таму, але памяць пра іх і пра іх подзвігі служэння свайму народу захавалася дагэтуль.

І як у мінулым малітоўны зварот да святых надаваў маральную моц нашаму народу, так і сёння наш зварот да іх і ўспамін пра іх служэнне бліжняму дапаможа нам у нялёгкай справе духоўнага адраджэння роднае Беларусі. У святле іх дзейнасці і подзвігаў мы ўзгадваем мінулыя трагічныя вехі нашай далёкай і блізкай гісторыі. Узгадваем і нядаўнюю вайну 1941--1945 гадоў, што навальніцай пракацілася па нашай зямлі. Так, нядаўнюю, нягледзячы на мінулыя 50 гадоў, бо подых яе, яе боль і пакуты жывуць у сэрцах людзей; яшчэ астанкі не ўсіх салдат гэтай вайны знайшлі месца свайго апошняга супачыну.

Вечная ім памяць, вечны пакой іх бессмяротным душам і вечнае блажэнства ў Царстве Айца і Сына і Святога Духа!

Вайна -- гэта мільёны гвалтоўна абарваных чалавечых жыццяў, гэта разбураныя гарады і сёлы, выпаленыя палеткі і бясконцае чалавечае гора...

Але вайна не была выпадковаю, як няма нічога выпадковага ў свеце гэтым. Прыгадаем падзеі 1917 года, грамадзянскую братазабойніцкую вайну, ганьбаванне народных святыняў, рэпрэсіі ўладаў супраць свайго народа, разрабаванне і разбурэнне ва Усходняй Беларусі ўсіх храмаў Божых -- вось дзе крыюцца глыбінныя, сапраўдныя прычыны вайны. Яна прынесла з сабой горкі трагічны вопыт, сталася пакараннем Божым за непрыхаванае супраціўленне Яго святой волі. Такі яе глыбінны сэнс.

Падчас вайны ў народзе абудзіўся дух патрыятызму, барацьба з ворагам узрушыла народ, прымусіла ўзгадаць сваю гераічную гісторыю, свае духоўныя каштоўнасці, якімі жыў народ з роду ў род.

З першых дзён вайны пераважная большасць веруючых, натхнёная Пасланнем Мітрапаліта Сергія, зрабіла свой выбар, стаўшы ў шэрагі абаронцаў Бацькаўшчыны. Многія міране, а сярод іх і будучыя святары, непасрэдна ўдзельнічалі ў бітвах Вялікай Айчыннай вайны. На грашовыя сродкі, сабраныя веруючымі, былі створаны славутая танкавая калона імя святога Дзмітрыя Данскога і паветраная эскадрылля імя святога дабравернага князя Аляксандра Неўскага.

Вялікай падзеяй у айчыннай гісторыі з'явілася вызваленне ўлетку 1944 года шматпакутнай Беларусі. За гады акупацыі беларускі народ перажыў трагедыю існавання пад уладай іншаземцаў. Тысячы нашых суайчыннікаў загінулі ў канцлагерах. Дзесяткі вёсак былі спалены акупантамі...

Хачу нагадаць толькі пра адзін факт ваенных гадоў. Гэта здарылася ў сяле Хорастава (цяпер Салігорскага раёна). 15 лютага 1943 года, у свята Стрэчання Гасподняга, калі мясцовая праваслаўная царква была запоўнена веруючымі, фашысты акружылі сяло, наглуха закалацілі дзверы храма і падпалілі яго разам з людзьмі. У агні загінула каля трохсот чалавек, у тым ліку настаяцель царквы -- айцец Іаан Сямёнавіч Лойка...

Вечная памяць усім, хто загінуў у перыяд акупацыі Беларусі! "Са святымі супакой, Хрысце, душы супачылых рабоў Тваіх, дзе няма ні болю, ні смутку, ні стогнаў, але жыццё бясконцае!"

Успаміны пра вайну выклікаюць горычныя, цяжкія пачуцці. Ад іх нідзе не схаваешся, яны -- частка нашай памяці.

Памятаючы пра гэта, мы з радасцю святкуем сёння вызваленне Беларусі, як радасную падзею ў нашай гісторыі, што прынесла мір на нашую зямлю.

Дарагія браты і сёстры!

Будзем дбайна захоўваць гэты мір, памятаючы пра той дарагі кошт, што заплацілі за яго нашыя бацькі, памятаючы і пра яго глыбінную сувязь з духоўна-маральным станам грамадства.

Будзем пільна сачыць за выкананнем намі запаведзі Божае аб любові да бліжняга, дзеля дабра скарыстоўваючы адведзены нам час свабоды Веры і Царквы.

З малітвай за Богахранімую краіну нашую Беларусь, за ўлады, воінства і народ яе, за мір для ўсяго свету, за дабрабытнасць святых Божых Цэркваў -- будзем жыць і працаваць дзеля шчасця адно аднаго.

Амінь.

**ФІЛАРЭТ,**
**Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі,**
**Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.**

г. Мінск
1994 г.

*АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ*



**У Мінску, па вуліцы Якуба Коласа, адбылася ўрачыстая цырымонія ўстаноўкі памятнага каменя на месцы былога фашысцкага лагера смерці, дзе ў 1941 —1943 гадах загінулі сотні ваеннапалонных. Імёны многіх з іх засталіся невядомымі. Да памятнага каменя былі ўскладзены кветкі, выступілі ветэраны, прадстаўнікі гарадскіх улад і грамадскасці.**

**НА ЗДЫМКУ: ля памятнага каменя ахвярам фашызму.**

*ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ГОНКІ*

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАМІСІІ ПА ВЫБАРАХ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**30 чэрвеня 1994 года адбылося пасяджэнне Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, на якім разгледжаны вынікі выбараў 23 чэрвеня гэтага года. На падставе пратаколаў, якія прадстаўлены абласнымі і Мінскай гарадской камісіямі, устаноўлена, што ў спісы для галасавання па выбарах першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь было ўнесена 7 476 586 выбаршчыкаў. З'явіліся на выбарчыя ўчасткі 5 912 102 выбаршчыкі, прынялі ўдзел у галасаванні 5 904 312 чалавек, што складае 78,97 працэнта. 121 509 бюлетэняў прызнана несапраўднымі. Галасы выбаршчыкаў размеркаваліся наступным чынам:**

**за ДУБКО А.І. прагаласавала 353 119 чалавек, або 5,98 працэнта, супраць -- 5 429 684;**

**за КЕБІЧА В.Ф. -- 1 023 174, або 17,33 працэнта, супраць -- 4 759 629;**

**за ЛУКАШЭНКУ А.Р. -- 2 646 140, або 44,82 працэнта, супраць -- 3 136 663;**

**за НОВІКАВА В.М. -- 253 009, або 4,29 працэнта, супраць -- 5 529 794;**

**за ПАЗЬНЯКА З.С. -- 757 195, або 12,82 працэнта, супраць -- 5 025 608;**

**за ШУШКЕВІЧА С.С. -- 585 143, або 9,91 працэнта, супраць -- 5 197 660.**

**Лукашэнка А.Р. і Кебіч В.Ф., якія атрымалі найбольшую колькасць галасоў, выйшлі ў другі тур галасавання.**

**Згодна з пастановай Цэнтральнай камісіі другі тур галасавання адбудзецца 10 ліпеня 1994 года.**

*СТАЎКІ*

## НРБ — ЗА КЕБІЧА

**Каардынацыйны камітэт Народнага руху Беларусі прыняў заяву, якая датычыць вынікаў першага тура прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. У ёй, у прыватнасці, гаворыцца, што галасаванне паказала, "што блок нацыяналістычных сіл пацярпеў скрышальнае паражэнне. Беларускі народ адназначна за рэальны саюз з Расіяй, дзяржаўнае двухмоўе, за захаванне сваіх сацыяльных заваёў, палітычнай і эканамічнай стабільнасці, навядзенне цвёрдага парадку шляхам бескампраміснай барацьбы з усімі відамі карупцыі". У заяве таксама змяшчаецца заклік Каардынацыйнага камітэта НРБ да сваіх членаў і прыхільнікаў у дзень выбараў аддаць свае галасы за В. Кебіча, які, на іх думку, "найбольш поўна адпавядае вышэйшай пасадзе кіраўніка нашай дзяржавы, з'яўляецца надзейным гарантам саюза з Расіяй і стабільнасці ў грамадстве".**

*ПАТРАБУЮЦЬ РЭФЕРЭНДУМУ*

## ...А ЧОРТ СВАЁ

**Славянскі сабор "Белая Русь" звярнуўся да парламента рэспублікі з прапановай правесці адначасова з наступным турам прэзідэнцкіх выбараў рэферэндум, на якім народ змог бы падтрымаць альбо адхіліць ідэю стварэння беларуска-расійскай канфедэрацыі, а таксама надання рускай мове статуса другой дзяржаўнай.**

*ПАМЯЦЬ*

## ЗЕМЛЯКАМ, ЯКІЯ ЗАГІНУЛІ

**Роўна паўстагоддзя назад Горацкі раён быў поўнасцю вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У гонар знамянальнай даты ў Горках узведзены помнік землякам, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Яго стваральнікі -- скульптары, заслужаныя дзеячы мастацтваў Беларусі, лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Іван Міско і Мікалай Рыжанкоў, а таксама архітэктар Міхаіл Ткачук.**

*СІТУАЦЫЯ*

## ПРАГНАЗУЕЦЦА НЕСТАБІЛЬНАСЦЬ

**У Камітэце дзяржбяспекі вельмі апасаюцца рэзкай дэстабілізацыі палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы ў выпадку перамогі А. Лукашэнкі ў другім туры галасавання па выбарах прэзідэнта Беларусі. Гэта звязана, у прыватнасці, з магчымымі перагібамі ў барацьбе са злачыннасцю. Такая інфармацыя з неафіцыйных крыніц дапаўняецца чуткамі пра тое, што спецыяльным падраздзяленням Камітэта дадзена вуснае распараджэнне падрыхтавацца да таго, што адразу пасля выбрання Лукашэнкі яны будуць прыведзены ў павышаную баявую гатоўнасць.**

**Па раней распрацаванаму плану пры праходжанні, акрамя Кебіча, у другі тур Пазьняка ці Шушкевіча таксама прадугледжвалася прывядзенне спецпадраздзяленняў у баявую гатоўнасць, аднак у значна меншай ступені.**

*У ЗАПАВЕДНІКУ КАМУНІЗМУ*

## ТРЫУМФ ПАЛІТЫЧНЫХ СТАРАВЕРАЎ

**25 чэрвеня, у дзень святкавання 50-годдзя вызвалення Віцебска ад гітлераўскіх акупантаў, у цэнтры горада адбылася падзея, якую мясцовыя прыхільнікі дэмакратычных рэформаў расцэньваюць як "ганебны трыумф палітычных старавераў".**

**З агульнай святочнай калоны, якая рухалася ад плошчы Свабоды па вуліцы Леніна, была выцеснена група асоб, якія неслі Герб і Флаг Рэспублікі Беларусь. Герб быў тут жа скінуты на зямлю, прычым дрэўка яго зламалася. Флагу суверэннай Беларусі таксама не знайшлося месца ля манумента вызваліцелям на плошчы Перамогі. Так што ўсе прамовы кіраўнікоў мясцовай улады і ветэранаў вайны прагучалі пад старым флагам БССР.**

**За ўсім тым, што адбывалася, з неўразуменнем назіралі члены дэлегацый грамадскасці з нямецкага горада Нінбурга і ветэранскіх арганізацый Расіі і Украіны.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ЯК ЗАЯВІЎ саветнік Аляксандра Лукашэнкі Пётр Капітула, кандыдат у прэзідэнты настроены, каб увесці сваю валюту. Без гэтага немагчымыя зрухі ў эканоміцы. "Карміць" народ абяцаннямі пра аб'яднанне грашовых сістэм Расіі і Беларусі няма ніякага сэнсу. Абяцанкі ўжо прынеслі велізарныя страты нашай маладой дзяржаве.

НА ДУМКУ былога прэм'ера Польшчы Л. Бальцэровіча, на Беларусі і Украіне баяцца радыкальных рэформаў. За гэта нам давядзецца заплаціць значна большую цану, чым заплацілі б за іх правядзенне. Эканамічную сітуацыю ў Беларусі і на Украіне Л. Бальцэровіч назваў самай сумнай.

РОБЯЦЦА захады, каб вывезці за межы Беларусі каштоўнасці і капітал, заявіў на прэс-канферэнцыі кандыдат у прэзідэнты А. Лукашэнка. Па яго словах, гэта назіраецца ў колах, блізкіх да ўрада. Калі не будуць прыняты адпаведныя меры, то вінаватыя адкажуць за гэта па ўсёй строгасці закона, пагразіў яшчэ не прэзідэнт пальчыкам у адрас КДБ і Дзяржаўнага мытнага камітэта.

АДКАПАНЫ падмурак манастыра XVIII стагоддзя -- такія першыя знаходкі экспедыцыі археолагаў Акадэміі навук Беларусі на Верхнім замку ў Полацку, непадалёк ад Сафійскага сабора. Мяркуецца, што знаходкі, зробленыя навукоўцамі Інстытута археалогіі, стануць асновай Полацкага музея археалогіі.

ТРЫЦЦАЦЬ гадоў назад пачалася прамысловая распрацоўка радовішчаў беларускай нафты. Максімальная колькасць яе была здабыта ў 1975 годзе -- 8 мільёнаў тон. За мінулы год здабыта ўсяго 2 мільёны тон.

## ПРАЗ 50 ГОД АД ТОЙ ВАЙНЫ

# "ІДЗІ, БАБКА, У МУЗЕЙ - ЗАБЯРЫ ЎЗНАГАРОДЫ..."

**Наша сённяшняе інтэрв'ю з дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Генадзем БАРКУНОМ. На працягу дзесяцігоддзяў гэты музей разам з шэрагам іншых вызначаных "зверху" ўстаноў, мясцін і г.д. складаў афіцыйны сімвал, твар Беларусі. Туды абавязкова вадзілі разнастайныя замежныя дэлегацыі, ён абавязкова ўваходзіў у экскурсійныя праграмы турыстаў, там "лепшых" дзяцей прымалі ў піянеры і камсамольцы... Пастуова з месца, дзе павінна была захоўвацца жывая людская памяць, музей Вялікай Айчыннай ператвараўся ў мёртвы пантэон, заідэалагізаванае сховішча генеральскіх кіцеляў, партбілетаў і пісталетаў. Але тым не менш пэўныя выхаваўча-патрыятычныя функцыі музей захоўваў на працягу ўсіх год свайго існавання, за выключэннем, бадай, апошніх двух-трох...**

-- Так, год-два назад было нешта страшнае, -- кажа Генадзь Баркун, -- музей наогул перастаў наведвацца людзьмі. Але мінулую восень, сёлета людзі зноў пайшлі да нас. Зноў сталі чуваць у залах галасы школьнікаў, і, можна сказаць, ад сэрца адлягло. Дарэчы, сёння, мне здаецца, у нас нават больш наведвальнікаў, чым у іншых музеях горада.

-- Моладзь ідзе, арганізаваная настаўнікамі, ці па ўласнай ініцыятыве?

-- Трэба ўлічыць, што сярод функцый нашага музея -- і адукацыйная. І калі па школьнай праграме вывучаецца гісторыя Вялікай Айчыннай вайны, натуральна, што настаўнікі прыводзяць сваіх вучняў да нас. Мы нават распрацавалі тэматычныя экскурсіі ў дапамогу школьным выкладчыкам.

У выхадныя дні шмат проста "неарганізаванай" дзятвы, асабліва на адкрытай пляцоўцы, дзе сабраны ўзоры вайсковай тэхнікі ваенных часоў. Хлопцы лазяць па танках, гарматах... Раней мы іх трохі "ганялі", але цяпер вырашылі: ну што яны зробяць гэтаму танку? Цікавяцца -- няхай лазяць.

А турыстаў мы страцілі: і замежных, і сваіх. Апошніх наогул зараз вельмі-вельмі мала. У былых рэспубліках былога Саюза, самі ведаеце, цяжкасцей дастаткова. Людзям не хапае грошай нават на жыццё, не тое, каб яшчэ і на паездкі. Адзін толькі бензін для транспарту -- дэфіцыт з дэфіцытаў.

-- Ці мянялі вы экспазіцыю, улічваючы грамадска-палітычныя змены апошніх гадоў?

-- Задума ў нас -- перапрацаваць усю экспазіцыю. І не толькі інтэр'ер, але змест таксама. Пакуль жа здолелі зрабіць толькі асобныя карэкціві: унеслі некаторыя новыя раздзелы, тэмы. А пачалі з першай залы музея. Там экспазіцыя ўжо перапрацавана карэнным чынам. Яна расказвае пра пачатковы перыяд вайны. Раней пра гэта гаварылі наступнае: Брэсцкая крэпасць, мужнасць яе абаронцаў, памром, але не пакінем -- усё абмяжоўвалася патрыятычнай, абарончай тэмай. Правільна, так і было. Але гэта толькі адзін бок падзей. Іншы -- тыя велізарныя страты, якія панесла краіна, тая трагедыя народа, што адбылася ў першыя дні вайны. Сотні тысяч савецкіх салдат трапілі тады ў канцлагеры. Наша новая экспазіцыя расказвае і пра гэта. Мы паказалі і тыя разбітыя самалёты, якія з-за пралікаў камандавання нават не паспелі падняцца. Расказваць -- дык расказваць усё.




**Дзяржаўны музей Вялікай Айчыннай вайны. Новая экспазіцыя, прысвечаная франтавому, партызанскаму і падпольнаму друку.**

Цяпер рыхтуем наступную экспазіцыю, але пакуль не цалкам, а толькі асобныя раздзелы. Адзін з іх, напрыклад, закранае раней практычна забароненую тэму: паліцыя ў гады акупацыі. Нашы супрацоўнікі сабралі дакументы і паспрабавалі паказаць, што сабой уяўляла паліцыя, хто ў ёй служыў і чаму. Тое ж і з так званымі калабарантамі, якія ўваходзілі ў Самаахову, Самапомач, Саюз беларускай моладзі. Раней у нас нічога пра іх не гаварылі. Але сёння мы валодаем цікавымі гістарычнымі матэрыяламі і будзем прапаноўваць іх нашым наведвальнікам.

Імкнёмся наогул мяняць знешні выгляд экспазіцый: менш партрэтаў, мы ж не архіў каманднага саставу. Безумоўна, трэба аддаць належнае таленту нашых военачальнікаў, і партызанскіх, і ваенных, але ж вайну выйграў найперш просты салдат, які больш за ўсё гінуў, а калі выжыў, то жыве сёння вельмі і вельмі сціпла. А ў нас часцей: калі кіцель, то якога-небудзь палкоўніка, калі фотаздымак, то -- генерала.

-- Калі вы складаеце кожную новую экспазіцыю, ці няма сярод супрацоўнікаў спрэчак пра трактоўку тэм, многія з якіх сапраўды складаныя?

-- Чаму не? Здараецца, погляды маладзейшых не супадаюць з меркаваннямі старэйшых. Так было, напрыклад, пры падрыхтоўцы матэрыялаў пра Кушаля, Наталлю Арсенневу. Старэйшыя адназначныя ў ацэнках: гэтыя людзі -- здраднікі радзімы. У моладзі погляды больш памяркоўныя.

-- Ці папаўняюцца фонды музея?

-- Безумоўна, колькасць паступленняў значна паменшылася. Ды і ветэранаў засталося ў жывых зусім мала. Але кожны год нашы фонды папаўняюцца тысячы на тры назваў. Некаторыя рэчы, дакументы "здабываюць" супрацоўнікі музея, частку прапануюць самі ветэраны, іхнія сем'і. Вось нядаўна пазваніў ветэран, ён жыве адзін, адчувае, што хутка ўжо адыдзе ў свет іншы, запрасіў нашага супрацоўніка і напісаў дароўную на ўсе свае ваенныя рэліквіі: узнагароды, дакументы... Так, у старога ёсць унукі, але ён кажа: парасцягваюць, папрадаюць...

-- Мне даводзілася чуць, што некаторыя сваякі герояў спрабавалі забраць здадзеныя раней у музей рэліквіі?

-- Так, было, што патрабавалі назад узнагароды, асабістыя рэчы і г.д. Некаторыя нават вельмі настойліва, і ў некалькіх выпадках мы аддалі рэчы назад. Але, на шчасце, апошнім часам такіх інцыдэнтаў няма.

-- Гэта былі маладыя нашчадкі ці ўдовы, браты, сёстры?

-- Было, што жонка прыходзіла, а было -- і маладзейшыя сваякі. Добра памятаю жонку вядомага партызана. Яна прыйшла і плача --унукі прымушаюць: ідзі, бабка, забяры ўзнагароды. Але мы яе ўсё-такі ўгаварылі, і рэчы засталіся ў музеі.

-- Як вы мяркуеце, забіраюць рэчы, каб лепей захаваць, ці, калі так можна сказаць, з камерцыйнымі мэтамі?

-- Я проста перакананы: каб збыць, прадаць. Толькі так. Трэба ж, праз колькі год раптам успомнілі пра дзеда ці дзядзьку-героя! Нам кажуць: мы павесім рэліквіі родзіча на сценку і будзем глядзець. Смешна!

-- А з экспазіцый нічога не знікае?

-- Цьфу-цьфу, апошні выпадак, калі прапалі пісталеты Сурганава і Каржа, адбыўся гадоў 15 назад. Злодзеі ноччу на вяроўцы спусціліся. Пасля таго крадзяжоў не было.

-- А колькасць зброі ў экспазіцыі не зменшылі?

-- Зменшылі. Але зусім не паказваць зброю немагчыма, калі ўлічыць профіль нашага музея.

-- Генадзь Іванавіч, сёння ў музея вялікія запаснікі?

-- Так, мы валодаем багатай калекцыяй. Да дня вызвалення Беларусі рыхтуем спецыяльную выставу "Рэліквіі з фондаў музея", дзе будуць прадстаўлены вельмі цікавыя, рэдкія экспанаты, многія з якіх нават ніколі і не выстаўляліся.

Мяркуем на наступны год да Дня Перамогі 9 Мая зрабіць выставу "Трафеі вайны". У нас ёсць багатая калекцыя нямецкага абмундзіравання, зброі, узнагарод. Думаю, гэта таксама выкліча вялікую цікавасць, таму што многага з таго нашы сучаснікі проста ніколі не бачылі.

-- Мабыць, праблема аховы будзе ці не самай складанай пры арганізацыі такіх выстаў?

-- Так, гэта якраз адно з пытанняў, якое мяне вельмі і вельмі турбуе. Думаю, што скласці саму экспазіцыю значна прасцей, чым надзейна захаваць яе ў час паказу.

-- Такім чынам, міліцыянер ля ўваходу ў музей не лішняе дапаўненне?

-- Ну, а як жа! Ёсць у нас і ахова, і сігналізацыя. Магчыма, вы не ведаеце, але ў падвалах нашага будынка (уніз яшчэ два паверхі) вялікае фондасховішча Нацыянальнага музея, дзе захоўваюцца значныя каштоўнасці -- калекцыі старадаўняй зброі, музычных інструментаў і г.д.

Складанасцей хапае. Але музей жыве, і для нас, яго супрацоўнікаў, стваральнікаў, -- гэта галоўнае. Гісторыю трэба ведаць, якая б яна ні была. А гісторыя Вялікай Айчыннай вайны -- гэта ў першую чаргу гісторыя народа, які клаў галаву на плаху за вызваленне сваёй зямлі.

## ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЧАКАЕ І ШУКАЕ

Пяцьдзесят год прайшло з таго часу, як Беларусь была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Якой бачылі тады сваю зямлю праз паўвека тыя, хто вызваляў яе ад ворагаў ці перажыў страшэнную акупацыю? Чамусьці думаецца, што ўяўленні і мары таго часу аб будучым жыцці адрозніваліся ад нашай сённяшняй рэчаіснасці. Што зробіш, калі ў любой вайне перамагаюць толькі палітыкі, якія заўсёды гатовы абараняць свае інтарэсы да апошняй кроплі чужой крыві, а простаму народу і ў выпадку перамогі, і пасля паражэння застаюцца толькі спаленыя хаты, разбураныя гарады, аплакванне родных і сваякоў. За мінулае паўстагоддзе многае змянілася, бо быў час паразважаць, прааналізаваць і ацаніць. Знікла злосць, з'явілася разуменне таго, што ўсе мы -- людзі і бяда, калі яна здараецца, інтэрнацыянальная... Вось які ліст зусім нядаўна атрымала наша газета: "Пішу вам чытач Міхась Цыбульскі, звяртаюся да вас ці то з просьбай, ці то з інфармацыяй, але па парадку. Ёсць у нас у Гомельскай вобласці ў Рэчыцкім раёне вёска Іванішча. Падчас апошняй вайны была там танкавая бітва. Нядаўна мне давялося там быць, і я выпадкова знайшоў кавалак металу, які калісьці быў казённай часткай нямецкай танкавай гарматы. На ім застаўся нумар і след ад прамога пападання снарада. Ведаеце, падчас службы ў войску я быў добра знаёмы з танкістамі і з танкамі і таму ўявіў сабе, што стала з людзьмі, з экіпажам гэтай машыны. Я ведаю, што многія людзі і зараз вельмі смуткуюць ад таго, што не ведаюць, дзе пахаваны іх блізкія, што загінулі падчас вайны. Думаю, што ў 1943 годзе загінуўшых тут немцаў таксама ніхто не лічыў. Таму не мог вам не напісаць, ніякай выгады для сябе не шукаю, а раптам гэтая інфармацыя будзе для некага карыснай.

**Нумар вось такі: 331.RI.127RhM38T.F1.20b**
**Справа ўнізе: 41 bul.**

Шчыра ваш
**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ.**



**На мяжы трох рэспублік -- Расіі, Беларусі і Украіны пабудаваны манумент Дружбы брацкіх народаў. Штогод па традыцыі тут збіраюцца ветэраны, былыя юныя партызаны, сыны палкоў гэтых славянскіх краін, успамінаюць суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны, загінуўшых сяброў, якія аддалі свае жыцці ў барацьбе з фашысцкімі захопнікамі, сустракаюцца з моладдзю. Многія ўдзельнікі вайны -- удзельнікі баёў за Беларусь.**

**Калі раней ля манумента збіраліся толькі прадстаўнікі трох прыгранічных абласцей былога СССР -- Гомельскай, Бранскай і Чарнігаўскай, то сёлета на свята прыехалі яшчэ дэлегацыі з Кіева, Крыма, Мінска, Масквы і шасці абласцей Расіі.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# "БАБУЛЯ РАСІЙСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ"



Зараз ніхто, калі меркаваць па беларускай краязнаўчай літаратуры, яе і зямлячкай не лічыць. А між тым, славутая рэвалюцыянерка Кацярына Брэшка-Брашкоўская нарадзілася ў вёсцы Іванава Невельскага павета Віцебскай губерні. Зараз гэта Пскоўшчына. Ды і з нараджэння прозвішча ў нашай зямлячкі выключна беларускае -- Вярыга. Дадайце да гэтага згадку, што родам з Віцебшчыны (а дакладней -- з Кублічаў на Ушаччыне) і беларускі пісьменнік-дэмакрат Арцём Вярыга-Дарэўскі, які за ўдзел у паўстанні 1863--1864 гадоў быў высланы ва Усходнюю Сібір. А крыху пазней, у 1868 годзе, у Пскове нарадзіўся вядомы польскі філосаф і этнограф, збіральнік беларускага фальклору Уладзіслаў Вярыга. Магчыма, нейкім чынам радаводы гэтых Вярыгаў перапляталіся з продкамі Кацярыны Канстанцінаўны.

Але чым жа адметны яе, сапраўднай доўгажыхаркі, лёс у расійскай рэвалюцыі, якую яна набліжала і якую, як гэта ні дзіўна, не здолела прыняць?

Кацярына Канстанцінаўна нарадзілася 15 студзеня 1844 года. Якраз сёлета мы маглі б адзначыць яе 150-гадовы юбілей. Але, на жаль, аб тым няма нават згадкі ў беларускім календары "Родны край". Бацькі Кацярыны -- землеўладальнікі. Дзяцінства і юнацтва дзяўчынка правяла ў маёнтку Лугавец Чарнігаўскай губерні. Атрымала выдатную хатнюю адукацыю.

У сваіх успамінах Брэшка-Брашкоўская так згадвала маладосць: "...увесь час пакутавала і хварэла за кагосьці сэрцам: ці то за фурмана, ці то за пакаёўку, ці то за прыгнечаных сялян..." У семнаццацігадовым узросце Кацярына актыўна ўключаецца ў барацьбу за ажыццяўленне ідэала светлай будучыні. Паўплывалі на гэта, відаць, напружаныя тагачасныя палітычныя падзеі. Найперш -- сялянская рэформа 1861 года. Магчыма, даляцела да дзяўчыны і рэха паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. 10 гадоў Брэшка-Брашкоўская самаахвярна працавала ў створанай ёю ж сялянскай школе. Адначасова арганізоўвала касы, якія выдавалі сялянам пазыку. Займалася і чарнавой фізічнай працай, адкрывала для сябе гаротнае жыццё прыгнечанага люду.

Хутка Кацярына прыйшла да высновы, што "ўрад баіцца свядомасці народа і імкнецца трымаць яго ў рабскім бяспраўі". Гэта прымусіла шукаць "розныя спосабы працаваць на карысць дарагога мне народа". У 1917 годзе рэвалюцыянерка будзе ўспамінаць аб падзеях амаль пяцідзесяцігадовай даўнасці: "...я вырашыла адправіцца па Расіі, каб... ступіць на шлях барацьбы нелегальнай".

Натура эмацыянальная, выхаваная на святым шанаванні рэлігійных канонаў, яна спалучала ў сабе ідэі хрысціянства з дактрынай народніцкага сацыялізму.

З 1873 года Кацярына Брэшка-Брашкоўская ўваходзіць у гурток "чайкоўцаў", якія лічылі сваёй галоўнай мэтай пранікненне ў народ, і не толькі праз кнігу і лістоўкі. Пад псеўданімам Фёклы Касой Кацярына стварае "Кіеўскую камуну", удзельнічае ў "хаджэнні ў народ". У верасні 1874 года яе арыштоўваюць. Больш трох гадоў у чаканні суда прасядзела Кацярына ў астрозе. І вось -- так званы працэс "193-х".

...-- Падсудная Брэшка-Брашкоўская Кацярына Канстанцінаўна, вам прадастаўляецца слова...

Голас суддзі не заспеў знянацку астрожніцу. За доўгія дні і ночы зняволення яна падрыхтавалася да свайго выступлення як след. Кацярына кідае ў залу жорсткія словы абвінавачванняў:

-- Я належу да сацыялістычнай і рэвалюцыйнай партыі расійскай... Я не прызнаю гэтага суда!

Жанчыну асудзілі на пяць гадоў заводскіх работ. Кацярына Канстанцінаўна становіцца першай жанчынай-паліткатаржанкай на Карыйскай катарзе. У 1879 годзе рэвалюцыянерку пераводзяць на пасяленне ў Баргузін. Надыходзіць лета 1880 года. Брэшка-Брашкоўская робіць спробу ўцячы. На жаль, няўдалую... Улады плюсуюць ёй яшчэ чатыры гады катаргі, у дадатак 40 бізуноў. Адзначым, што гэта ці не першы выпадак у Расіі, калі "палітычны" вязень прысуджаны да цялесных пакаранняў. Вось табе і "міласэрнасць" расійскай паліцыі: рука царскіх служак гатовая падняцца нават на жанчыну.

Але ўсё ж улады не адважыліся ажыццявіць пакаранне, бо спужаліся бунту палітычных зняволеных. Пасля турмы і катаргі Кацярына Канстанцінаўна ў 1885--1893 гадах адбывала пасяленне ў Сяленгінску. Потым пад наглядам паліцыі жыла ў Іркуцку. І толькі амністыя з нагоды каранацыі Мікалая II дазволіла рэвалюцыянерцы ў верасні 1896 года вярнуцца ў еўрапейскую Расію. З моманту арышту прайшло больш за два пакутлівыя дзесяцігоддзі. Здавалася б, цана за юначы максімалізм спаўна заплачана. Іншаму мужчыне ці вытрымаць! І ўзрост... "Бабулі расійскай рэвалюцыі" (так будзе называць пазней яе і Керанскі, які напіша некралог на смерць Кацярыны Канстанцінаўны) тады якраз ужо споўнілася пяцьдзесят два гады. І ўсё ж Брэшка-Брашкоўская сваё жыццё не змяніла. У 1898 годзе яна зноў пераходзіць на становішча нелегала.

Пасля разгрому эсэраў у 1903 годзе -- эміграцыя ў Швейцарыю. Праз год абіраецца дэлегатам Амстэрдамскага кангрэса II Інтэрнацыянала. Узрост не перашкодзіў і вандроўцы Кацярыны Канстанцінаўны ў ЗША, дзе яна збірала грошы на патрэбы партыі эсэраў.

У маі 1905, адчуўшы покліч рэвалюцыі, яна вяртаецца ў Расію, але хутка была выдадзена сумна вядомым правакатарам, агентам ахоўнага аддзялення Азефам і арыштавана ў Сімбірску. Да суда 2 гады і 9 месяцаў зняволення ў Петрапаўлаўскай крэпасці.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

*Уладзімір ДЗЕХЦЯРУК нарадзіўся на Брэстчыне. Скончыў Гомельскі чыгуначны інстытут і па размеркаванню апынуўся ў Эстоніі, дзе ўжо амаль што 15 гадоў працуе інжынерам-чыгуначнікам у г. Кохтла-Ярве. Ён адзін з ініцыятараў стварэння Беларуска-эстонскага згуртавання "БЭЗ" і каля пяці гадоў быў ягоным старшынёй. Шчыры беларус, ён шмат робіць для захавання і адраджэння беларускай спадчыны ў Эстоніі. Часта наладжвае веласіпедныя вандроўкі па Прыбалтыцы, падчас якіх сябры суполкі шукаюць сяброў і аднадумцаў, каб далучыць да агульнай справы. Уладзімір Дзехцярук піша вершы, якія добра вядомы сярод беларусаў у Эстоніі. Адзін з іх мы сёння прапануем вашай увазе.*

* * *

**Беларусь, ты далёка-далёка...**
**Што ж тут зробіш -- такі ўжо мой лёс.**
**Я пакінуў бусловы твой клёкат**
**Без трывогі, без суму, без слёз.**

**Ды ў абшарах вялізнай краіны,**
**У мітусні разнастайных падзей**
**Часта думаў аб словах Скарыны**
**Пра звяроў, птушак, пчол і людзей.**

**Да цябе прылятаў, сінявокая,**
**Да цябе прыязджаў, белакрылая,**
**Даравала ты мне, што далёка я,**
**І прымала мяне, мая мілая.**

**Я не ведаю лепшага шчасця,**
**Як ў бацькоўскую хату ўвайсці,**
**Да рукі мацярынскай прыпасці,**
**І ў вачах разуменне знайсці.**

**Беларусь, ты далёка-далёка,**
**Не разблытаць жыццёвы клубок.**
**Я стаю, а па небе аблокі,**
**Быццам думкі, плывуць у твой бок.**

**І малюся малітвай бязмежнаю,**
**І малюся малітвай бясконцаю:**
**"Можа ўбачу цябе незалежнаю,**
**Можа жыць будуць ўнукі**
**без стронцыю..."**

**Уладзімір ДЗЕХЦЯРУК,**
**сябра беларуска-эстонскага згуртавання "БЭЗ" у Кохтла-Ярве.**



**Павольна льецца сяброўская гутарка, ціха шуміць бярозавая лістота. Добра пасля доўгай хады па лесе апынуцца на ўтульнай палянцы, дзе ёсць і лаўка, і стол. Падрыхтавалі такія куткі для адпачынку на лясных прасеках і ля ўзбочын дарог работнікі Неманіцкага лясніцтва Барысаўскага раёна.**

**НА ЗДЫМКУ: гэты маляўнічы куток адпачынку размешчаны ля магістралі Мінск--Масква.**

**Фота П. НАВАТАРАВА.**

# ВЫГАДЫ І ПРЫЕМНАСЦІ АД БЕДНАСЦІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

І калі нехта са знаёмых скажа: "Учора я быў на "Дынама", мы зразумеем яго правільна і запытаемся не пра спартыўныя рэкорды, а пра цэны на красоўкі ці скураныя курткі.

Сюрпрызы сёння чакаюць нас у самых нечаканых месцах. Так, італьянскую мэблю вы можаце набыць у Палацы мастацтва. Там жа працуе і антыкварная лаўка, а да нядаўняга часу ішлі богаслужэнні... Напэўна, сапраўды толькі другое прышэсце Хрыста здольнае выратаваць ад гандлю нашу духоўнасць, бо здаецца, адзін Усявышні і можа выгнаць іх з храмаў культуры, дзе яны ўжо адчуваюць сябе больш упэўнена, чым самі мастакі, бібліятэкары, аматары кнігі.

З даўніх часоў існуюць у нашых буйных прадуктовых магазінах так званыя "куткі гаспадыні", дзе можна набыць гаспадарчыя дробязі накшталт запалак, мыла, вяроўкі ці накрыўкі для слоіка. Аднак апошнім часам павольна і неяк непрыкметна гэтыя аддзелы пачалі буйнець і разрастацца, і ролю неабавязковых дробязей пачынаюць выконваць тавары, якія раней у гэтым магазіне былі асноўнымі. Гэта нібы своеасаблівы паказальнік таго, як у нашай свядомасці змяняюцца прыярытэты. І, напрыклад, кнігу, якая ніколі вельмі дорага не каштавала, але заўсёды карысталася асаблівай павагай і аўтарытэтам, паступова выціскаюць менш паважаныя, але стаўшыя зараз больш істотнымі каўбаса, адзенне, касметыка, гарэлка... Але ж прыярытэты гэтыя мяняюцца не толькі ў крамах, таксама павольна і нябачна ў разрад неабавязковых дробязей пераходзяць сумленне, гонар, прыстойнасць, здаровы сэнс у рэшце рэшт. Нядаўна вушам сваім не паверыла, калі пачула, як прадаўшчыца, якая ашуквала пакупнікоў, замест абурэння выклікала ў людзей шчырае спачуванне: яна ж таксама чалавек, ёй жа таксама жыць трэба! На судовым працэсе па справе выкладчыка, які браў хабар са студэнтаў за адзнакі, зачытваецца характарыстыка, якую яму далі калегі: "Добры, сумленны чалавек, выдатны спецыяліст". А як жа тады са злачынствам, за якое яго судзяць? "Змучаны цяжкімі ўмовамі жыцця..." Вось яно, тое самае, што дае індульгенцыю на гандаль гарэлкай у бібліятэчным калектары, адзеннем і абуткам -- на стадыёне, мэбляй -- у Палацы мастацтва, на хабар, крадзеж і многае іншае. Завецца яно папрознаму -- "наш цяжкі час", "дрэнныя ўмовы жыцця", "недахоп сродкаў", а азначае адно --беднасць. "Мы -- бедныя, мы не можам інакш", -- гаворым самі сабе і не заўважаем пры гэтым, як паступова ствараем філасофію жабракоў, якая апраўдвае непрыстойнасць і дазваляе злачынства. А што з нас возьмеш? Такое зараз жыццё,.. -- сцвярджаем з нейкім мазахісцкім задавальненнем. Аказваецца, у беднасці ёсць свае выгады і прыемнасці. Дарэчы, магчыма, калі-небудзь справы ў нашай эканоміцы палепшацца, і ў дзяржавы ў рэшце рэшт з'явяцца грошы на культуру. Што нас чакае тады? Новая перабудова? Дык можа лепш не рабіць памылак адразу? Праўду напісаў Сакрат: "Усе нашы беды -- ад няведання, а праблемы -- ад беднасці..."

Калі заканчвала пісаць гэты артыкул, у дзверы пазваніла суседка. "Кідай усё і спяшайся ў паліклініку", -- хутка прагаварыла яна. "Навошта? -- здзівілася я. -- Нічога быццам бы не баліць..." . "Ды прычым тут хвароба! -- адмахнулася яна. -- Там яйкі танныя прадаюць. Спяшайся, бо не хопіць"...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**73**

Для праваслаўных Расія нават давала нейкую духоўную перавагу, не кажучы ўжо пра старавераў, якія аднадушна прынялі бок рускага войска і дапамагалі яму душыць паўстанне ў Віленскай і Віцебскай губернях. Таму спадзяванні шляхты на ўсенародную падтрымку вайны Польшчы з Расіяй не спраўдзіліся. Калі сяляне і ішлі ў паўстанцкія атрады, дык пераважна пад прымусам паноў. Паўстанцкі рух на Літве-Беларусі лакалізаваўся каля Вільні і ў Белавежскай пушчы, гэта значыць там, дзе ён падмацоўваўся ваеннымі наездамі з Польшчы. У іншых месцах шляхта рыхтавалася да паўстання (асабліва ў Мінскай губерні), але без падтрымкі сялян выступіць не змагла. На ўсход Літвы-Беларусі паўстанне практычна не дайшло. Там было менш каталіцкай шляхты, а рускае панаванне было больш працяглым (з 1772 года).

**ПАСЛАБЛЕННЕ ПОЛЬСКАГА ЎПЛЫВУ І ЎЗРАСТАННЕ РУСІФІКАЦЫІ.** Пасля перамогі ў вайне з Польшчай і ліквідацыі выступленняў на Жамойці, Літве-Беларусі і Украіне Мікалай I бязлітасна пакараў членаў сейма, якія галасавалі за звяржэнне дынастыі Раманавых, афіцэраў і жаўнераў, што не склалі зброі пасля капітуляцыі Варшавы, кіраўнікоў паўстання, а таксама забойцаў 3 жніўня. Усе астатнія мелі магчымасць пакаяцца і атрымаць царскае дараванне. Аднак жаўнеры разбітага польскага войска аддавалі перавагу эміграцыі. Большасць асядала ў Францыі. Іншыя ехалі ў Англію, адкуль пазней ішлі вытокі польскага утапічнага сацыялізму. (Яго прыхільнікам уяўляўся цудоўна-прагрэсіўны свет, дзе ўсе людзі гавораць па-польску).

**74**

Рускі ўрад скасаваў усе прыкметы польскай дзяржаўнасці: канстытуцыю, сейм, войска. Царства Польскае было далучана да Расійскай імперыі і падзелена на губерні, якімі стаў кіраваць Паскевіч, набыўшы тытул князя Варшаўскага і дыктатарскія звычкі. Акрамя дзяржаўнасці, палякі страцілі яшчэ і магчымасць бесперашкодна паланізаваць Літоўска-Беларускі край. Ён пачаў мэтанакіравана русіфікавацца царскай Расіяй. Значыць, вайна мела для Польшчы супрацьлеглыя вынікі: замест поўнай незалежнасці -- поўная няволя, замест далучэння да Царства зямель з усходу -- далучэнне самога Царства да Літвы-Беларусі ў складзе Расійскай імперыі. І здарылася гэта не толькі таму, што руская дзяржава была мацнейшай у ваенных адносінах. Шляхецкае Царства Польскае было не ў стане ўзняцца на ўсенародную нацыянальна-вызваленчую вайну, бо не паспела скласціся яшчэ і сама польская ўсенародная нацыянальная супольнасць. Захоўвалася запрыгоненае, маласвядомае сялянства, бракавала прадстаўнікоў трэцяга саслоўя.

**ЗАПАВОЛЬВАННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ.** Вайна скончылася, але супярэчнасці паміж польскай і рускай арыстакратыяй з-за Літвы-Беларусі заставаліся. Барацьба суседзяў з усходу і захаду за беларусаў, іх землі, розум і душы стала доўгатэрміновым фактарам гістарычнага развіцця. Адны імкнуліся зрабіць нас рускімі, праваслаўнымі, манархістамі, другія -- палякамі, каталікамі (у горшым выпадку уніятамі), рэспубліканцамі. Але ні аднаму, ні другому не ўдавалася паглы-

**75**

нуць нават вярхі грамадства. Тады яны дзялілі іх паміж сабой на прыхільнікаў усходняй і заходняй арыентацыі. Увогуле, польска-руская вайна 1831 года ўзмацніла палітычную напружанасць на Літве-Беларусі і тым самым прычынілася да запавольвання нацыянальнага адраджэння беларусаў.

Рэвалюцыйны рамантызм шляхты, яе арыентацыя на сілу не прынеслі прыгнечаным народам былой Рэчы Паспалітай палёгкі. Калі палякі ў барацьбе за незалежнасць адмовіліся ад цярплівай мірнай працы ў галіне культуры і гаспадаркі ды ўзяліся па прыкладу французаў за зброю, дык, як і ў 1812 годзе, толькі зрабілі расійскіх захопнікаў пераможцамі. Дарэчы, папа рымскі асудзіў вайну 1831 года.

# 7. ХВАЛЯ МІКАЛАЕЎСКАЙ РУСІФІКАЦЫІ

Першую спробу русіфікаваць наш край зрабіла Кацярына II. Але пасля яе смерці ўрад Паўла I вярнуў літоўска-беларускія землі ў рукі паланізатараў. Пры Аляксандры I становішча не мянялася. І толькі Мікалай I узяўся працягваць справу сваёй бабулі. Польска-руская вайна падштурхнула яго на незвычайны эксперымент. Цар стаў перарабляць беларусаў на рускіх, каб супрацьпаставіць іх палякам, аслабіць Варшаву і ўмацаваць сваё панаванне на захопленых зем-

**76**

лях былога Вялікага Княства Літоўскага. Асноўная ўвага надавалася спаланізаванай літоўска-беларускай шляхце, бо мясцовыя сяляне лічыліся рускімі, толькі трошкі падкалечанымі польскім панаваннем.

## 7.1. Перабудаванне Літвы-Беларусі ў Паўночна-Заходні край

**АБ'ЯЎЛЕННЕ КАТА БЕЛАРУСАЎ.** Імперская ідэалогія патрабавала аднастайнасці. На думку ўрада, у Расіі ўсе, а не толькі беларусы павінны быць рускімі. Тады дзяржава будзе моцнай, і імперыя ўтрымаецца. Гэтага дабіваліся нават рускія рэвалюцыянеры. І не выпадкова, што першым праграму русіфікацыі заходніх губерняў склаў для мікалаеўскага ўрада былы дзекабрыст М. Мураўёў. Пра сябе ён казаў: "Я не з тых Мураўёвых, якіх вешалі, а з тых, якія вешаюць". Сваю чыноўніцкую кар'еру будучы вешацель рабіў на Літве-Беларусі: спачатку ў якасці віцебскага губернатара (1827), потым -- магілёўскага (1828--1830) і гродзенскага (1831--1835), а паміж гэтым выконваў і абавязкі чыноўніка для асобых даручэнняў пры штабе арміі графа Талстога, які душыў паўстанцаў у Жамойці і Літве-Беларусі. Дык вось, амаль усё тое, што Мураўёў прапаноўваў у сваіх запісках 1831 года да цара, праводзілася потым рускім урадам у жыццё.

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

**77**

**НАСАДЖЭННЕ РУСКАЙ МОВЫ І РУСКАЙ АДМІНІСТРАЦЫІ.** Справамі русіфікацыі Літвы-Беларусі кіраваў Заходні камітэт. Адразу ж пасля свайго стварэння (1832) ён увёў замест польскай рускую мову не толькі для вуснага карыстання, але і для справаводства ва ўсіх дзяржаўных установах краю. Аднак сярод мясцовыхураднікаў (чыноўнікаў) мала хто ўмеў добра чытаць і пісаць па-руску, што давала падставу замяняць іх ураджэнцамі ўнутранай Расіі. Для заахвочвання ўраднікаў да пераезду на Літву-Беларусь ім давалі вышэйшыя пасады і большыя аклады ў параўнанні з цэнтральнымі губернямі. Толькі жадаючых працаваць у расійскай адміністрацыі чужога краю знаходзілася не надта шмат. У 1855 годзе выклікaных ураднікаў у Віленскай і Гродзенскай губернях было усяго 20 працэнтаў. У тым жа годзе Мікалай I спрабаваў укамплектаваць рускімі ўраднікамі ўвесь штат паліцэйскіх. Праўда, віленскаму генерал-губернатару ўдалося пераканаць цара, што зрабіць гэта адразу немагчыма.

Увядзенне ў Літве-Беларусі рускай адміністрацыі практычна правалілася. Ехаць у чужы край у пагоні за выгадамі адважваліся звычайна не лепшыя прадстаўнікі рускай улады і рускай культуры. Яны не маглі паспрыяць тут росту аўтарытэту Расіі. Мясцовыя сяляне ставіліся да іх з яшчэ большым недаверам, чым да мясцовых ураднікаў, якія хоць ведалі беларускае жыццё і мову, а значыць маглі растлумачыць вяскоўцам, што ад іх патрабуе адміністрацыя. Рускаму ўраду прыходзілася

**78**

мірыцца з тым, што большасць дзяржаўных ураднікаў на Літве-Беларусі складалі спаланізаваныя шляхціцы, якія патроху вучыліся рускай мове.

**УВЯДЗЕННЕ РАСІЙСКАГА ЗАКАНАДАЎСТВА.** Мясцовым уладам не падабалася, што справаводства на Літве-Беларусі ажыццяўлялася па Літоўскаму статуту. М. Мураўёў і беларускі генерал-губернатар Н. Хаванскі дамагаліся ўвядзення расійскага заканадаўства і адмены польскага, да якога яны адносілі па сваёй гістарычнай і палітычнай непісьменнасці Літоўскі статут. І ён быў скасаваны спачатку ў Віцебскай і Магілёўскай (1831), а потым ва ўсіх астатніх заходніх губернях Расіі (1840). Да гэтага часу вядомы рускі рэфарматар М. Сперанскі завяршыў працу над сістэматызацыяй расійскіх законаў. Іх поўны збор склаў 45 тамоў, а законы, якія найбольш адпавядалі патрэбам тагачаснага жыцця, змясціліся ў 15 тамах. Яны і былі надрукаваны пад назвай "Звод законаў Расійскай імперыі" для агульнага карыстання ва ўсёй краіне.

Адначасова са Сперанскім вядомы вучоны-юрыст, прафесар Віленскага універсітэта І. Даніловіч падрыхтаваў да друку так званы "Заходні звод законаў", у аснову якога быў пакладзены Статут Вялікага Княства Літоўскага. Гэты звод прызначаўся для Літоўска-Беларускага краю. Але Мікалай I забракаваў працу Даніловіча за яе "польскі характар", хоць яна выконвалася па заказу ўрада і найбольш адпавядала мясцовым умовам жыцця, бо грунтавалася на нормах старажытнабеларускага права.

**79**

Хутка жыццё паказала, што ўвесці рускія законы на Літве-Беларусі з яе багатымі юрыдычнымі традыцыямі адначасна немагчыма. Таму мясцовыя прававыя асаблівасці ўносіліся ў агульны звод законаў Расійскай імперыі. Такім чынам дзейнасць літоўска-беларускіх законаў захоўвалася пад выглядам рускіх.

**ВЫНАХОДНІЦТВА ПРАВІНЦЫЯЛЬНАЙ НАЗВЫ.** У 1840 годзе неяк трапіў Мікалаю I на вочы праект загада, дзе размова ішла пра губерні беларускія (Віцебская, Магілёўская, Мінская) і літоўскія (Віленская, Гродзенская і Ковенская). Смаленшчына ўжо пачала адносіцца да губерняў велікарускіх. Цар выкрасліў этнаграфічныя назвы, аддаў перапісваць загад з пералікам кожнай губерні асобна і распарадзіўся, каб такі парадак захоўваўся і надалей. І сапраўды, у далейшым урад пазбягаў называць адзначаныя губерні беларускімі ці літоўскімі. Для іх абралі назву "Паўночна-Заходні край".

Здавалася б, бяскрыўдны царскі капрыз. Але ён дорага каштаваў нашаму народу. Здарылася так, што пад забарону падпалі найперш назовы -- Літва і літоўскі. Афіцыйна яны ўжо ніколі не ўжываліся ў адносінах да заходніх земляў былога Вялікага Княства Літоўскага. І толькі жамойты называлі сябе літоўцамі, а свой край -- Літвой. Тады яны складалі большасць насельніцтва толькі на Ковеншчыне, але заяўлялі сваё права на спадкаемнасць усёй гісторыі і культуры некалі магутнага Вялікага Княства Літоўскага. Нашы ж продкі маўчалі, бо не

**80**

ўсведамлялі яшчэ сваіх нацыянальных інтарэсаў. Такім чынам, мы страцілі старадаўнюю назву, якая магла стаць агульнанацыянальнай, і ператварыліся ў "тутэйшых".

Што тычыцца назоваў Беларусь, беларускі, то яны зберагаліся і патроху распаўсюджваліся на былыя губерні літоўскія. Для панавання над нашым краем царскаму ўраду выгадна было прадстаўляць яго Белай Руссю (Беларуссю), а жыхароў гэтага краю -- беларусамі, ці амаль рускімі. Але канчаткова назва Беларусь замацавалася за нашай айчынай толькі ў другой палове XIX стагоддзя.

## 7.2. Сацыяльна-эканамічныя меры

**"РАЗБОР" ШЛЯХТЫ.** Шляхецкае паўстанне 1831 года прымусіла царскі ўрад заняцца першым саслоўем Літвы-Беларусі больш грунтоўна. Усе папярэднія меры не прымірылі мясцовую шляхту з Расіяй. Асабліва шмат клопатаў было з дробнай шляхтай, так званай загоннай, або засцянковай. Яна ці зусім не мела зямлі, ці валодала ёю ў памеры не большым, чым добры сялянскі надзел, ды яшчэ перабівалася арэндай. Бедны шляхціц часам цярпеў нястачу, але на дзяржаўную службу да цара не ішоў, усё ўспамінаў пра былую вольнасць за польскім часам і ў душы заставаўся паўстанцам. Яму асабліва не было чаго губляць.

**ВЫДАДЗЕНА "МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРАЙ"**

# НЕ ДА ПАЭЗІІ? ПАЭЗІЯ ЖЫВЕ!

Здаецца, пра якія яшчэ вершы можна гаварыць, калі ні на хвіліну не адпускае чалавека клопат, як выжыць, капейчыну лішнюю прыдбаць, каб дзяцей пракарміць, як звесці канцы з канцамі. І ўсё ж, бадай, слушнае сцвярджэнне, што калі нешта і ўратуе чалавецтва, дык гэта прыгажосць. Толькі яна дазволіць яму правільна зарыентавацца ў тлумным свеце, пазбавіцца ўсяго выпадковага, наноснага, каб душой уваскрэснуць, а значыць -- ажыць!

А дзе прыгажосць, там і паэзія. Вечна загадкавая і пастаянна маладая.

Гэта, безумоўна, пры знаёмстве з вершамі пранікнёна-шчырымі. Аднак не будзем забываць, што ёсць яшчэ паэзія публіцыстычная, напоўненая трывогамі і праблемамі часу.

А паэтаў у нас шмат, і паэтаў розных. Што яны па-ранейшаму працуюць плённа -- пераконваюць не толькі новыя публікацыі ў перыёдыцы (дарэчы, паэтычныя раздзелы ў часопісах надзіва прадстаўнічыя), а і кнігі, што выходзяць у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Сярод іх зборнік лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова **Казіміра Камейшы "Кубак блакіту"**.

К. Камейша з творцаў, якія, на жаль, у так званыя мастакоўскія абоймы пры пералiках набыткаў не часта трапляюць. Сам пра сябе ён дакладна сказаў у вершы "Пра фотаздымкі", якім новая кніга і адкрываецца:

**Нашчадак мой і друг далёкі,**
**Калі прыдзірлівейшым вокам**
**Ты здымкі разглядаць пачнеш,**
**Дык з краю там шукай мяне.**
**Стаяў я з краю напаўкроку,**
**Каб, не дай Бог, на ўсіх вялікіх**
**Не кінуць цень свайго пляча.**

Сказана ў нечым іранічна, ды ў любой іроніі зусім няцяжка знайсці і долю сур'ёзнасці. Праўда, не трэба забываць, што сам час пасля пастaвіць усё на месца, бо ён адзіны аб'ектыўны і бескампрамісны суддзя. А што К. Камейша -- паэт сапраўдны і талент у яго, Богам дадзены, -- сумнявацца не даводзіцца. Лепшыя вершы кнігі "Кубак блакіту" гэта пацвярджаюць. Пры тым вершы самыя розныя. І з ярка выражанай публіцыстычнасцю, і інтымналірычныя. Хаця, лепей разважыўшы, падзел гэты ў многім штучны, бо паэзію не трэба раскладваць па палічках. Яе трэба чытаць...

Слова ж К. Камейшы заўсёды нясе ў сабе важкі сэнс. Яно як той сонечны ўзыход. Здавалася б, падобны на іншыя, але ўважліва прыгледзішся і адчуеш: падабенства гэтае знешняе. Прысутнічае тое, чаго раней не было. Як у вершы "На Свіцязі світае...". Малюнак у нечым знаёмы: "На Свіцязі світае,// Сплывае сон смугі.// Вадзіца залатая // Цалуе берагі".

Але чым далей чытаеш твор, тым больш пераконваешся, як арыгінальна, па-свойму піша К. Камейша. Хоць бы ў гэтым заключным моманце спасціжэння летняга дня:

**На Свіцязі світае,**
**І клепле двор касу.**
**Часіна сама тая**
**Ісці тушыць расу.**

Лірычны герой паэта і жыццём любуецца, і спрабуе асэнсаваць, як жылося, што бачылася. Гэта не капанне ў самім сабе, а заканамерная патрэба азірнуцца назад, спыніцца, каб адчуць, ці так жывеш. Лета добра, ды восень набліжаецца:

**Трывожна гарыць гэта восень**
**Агнямі асін і бяроз.**
**Ты думаеш, лёгка ішлося**
**На той перавал, дзе узрост.**
**Ты думаеш, рэха нясłося**
**І сцежка няслася наўпрост.**

Але адбываецца асэнсаванне не толькі ўласна перажытага. Не сціхае ў душы і боль аб мінулай вайне. Памяць паэта, безумоўна, нічога пра яе не захавала (нарадзіўся К. Камейша 4 снежня 1943 года), аднак не дае яму спакою памяць народа. Таму і пішуцца верш за вершам. У шэрагу іх надзіва арыгінальны -- "Памяць": "Доўгі дзень твой, // Як боль твой, Хатынь. // Памяць як ні гартай-перагортвай, // Тры бярозкі сумотна стаяць, // І няма паміж імі чацвёртай. // Тры маўчаць // Ды пад ветрам шумяць, // А чацвёртая бавіцца недзе. // ...А чацвёртая звонам крычыць, // Раскалыхвае памяць і неба".

Вось і ўвесь твор, але як шмат сказана. І пра саму вайну, і пра лёс народны. І пра памяць, незагойную рану.

Памяць -- свайго роду герой паэмы "Посах", а праз яе раскрываецца аблічча выдатнага мастака, Беларуса з вялікай літары Язэпа Драздовіча. К. Камейша як бы крочыць сцяжынамі, якімі ў розны час хадзіў гэты творца-вандроўнік (аўтар кнігі пра Я. Драздовіча Арсень Ліс дакладна назваў яго "вечным вандроўнікам"). Заглыбляецца ў свет Я. Драздовіча і яго ж вачыма -- позіркам вялікага адраджэнца -- глядзіць на саму Бацькаўшчыну: "Тваімі вачыма інакш я пабачыў // Зямлю, без якой мне не жыць на зямлі". Тым самым і нам, чытачам, дазваляе па-новаму зірнуць на Беларусь. У рэшце рэшт і ўся кніга падначалена менавіта такой мэце -- яна і прызнанне ў любові да Бацькаўшчыны, але ж яна і абуджэнне гэтай любові. У сэрцах тых, хто пакуль цалкам не ўсвядоміў для сябе, на якой цудоўнай і непаўторнай зямлі ён жыве.

... "Я сын твой, вёска", -- сцвярджае ў адным з вершаў **Алег Салтук**, які прыйшоў на сустрэчу з чытачом са сваёй чарговай кнігай **"Святло зямлі"**. Яна -- выбранае аўтара. У зборнік увайшлі лепшыя творы з папярэдніх кніг "Пачатак", "Працяг", "Святло зямлі" і "На далонях жыцця". Так, "Святло зямлі" ў А. Салтука ўжо было, а значыць, гэтая назва ў яго зусім невыпадковая. Яна паэту блізкая, бо за ёю тое, што заўсёды хвалюе яго.

А. Салтук пастаянна адчувае ўласную повязь з бацькоўскай зямлёй, блакітнаазёрнай Віцебшчынай, дзе нарадзіўся (у вёсцы Рыжэнькі Шумілінскага раёна). Пра вёску ён не прамінае сказаць: "Выток мой там, // Пачатак і аснова. // Там спадзяюся адшукаць я словы, // Якіх пакуль у слоўніку няма". І на самай справе ў яго вершах шмат нерушавасці. І моўнай, калі паэт паспяхова пазбаўляецца слоў выпадковых, другасных. І пачуццёвай, і побытавай.

Адчуванне такое, што лірычны герой кожнай тканкай сваёй, нервам кожным злучаны з наваколлем. З вёскай ён, толькі з вёскай, хоць і жыве даўно ў горадзе, знайшоў там, здавалася б, сваё пастаяннае прыстанішча. Ды хіба сэрцу загадаеш, калі яго цягне на прастор, у травы, што даўно чакаюць узмаху касы?!

Як не прыгадаць у сувязі з гэтым жаданне А. Салтука "навясці" своеасаблівы мост паміж учарашнім вясковым жыццём і цяперашнім гарадскім. Робіцца гэта, я б сказаў, па-майстэрску:

**Расце атава.**
**Укос другі**
**Касцоў пакліча неўзабаве.**
**Буслоў бясконцыя кругі,**
**У сэрцы большае тугі,**
**Як на бязлюднай пераправе.**

Адразу ж ідзе паўтор, і тым самым з'яўляецца ўдакладненне: "Як на бязлюднай пераправе, // Дзе перавозчыка няма, // А ты гукаеш, ды дарма: // Маўчыць аглухлы бераг правы". І далей: "Маўчыць аглухлы бераг правы, // Хоць да яго рукой падаць, // А там калышуцца, шумяць // Твае няскошаныя травы".

Вёска прыцягвае бы магнітам, не адпускае, не адпускае... І разам з тым, хочаш таго ці не хочаш, а мусіш прызнацца, што для вёскі ты ўжо ў многім чужы:

**Снягі, снягі -- няма канца**
**і краю.**
**Лячу адзін у акіян снягоў.**
**Я штосьці тут згубіў,**
**Я штосьці тут шукаю**
**І не магу знайсці**
**сярод палёў.**

А наколькі наша паэзія чуйная да ўсіх сённяшніх бед, яскрава відаць з кнігі **Васіля Макарэвіча "Везувій"**. З самой назвы бачна, якая неўтаймаваная душа лірычнага героя. І першае, што не дае ёй спакою, той самы Чарнобыль, які "праз гады да сёння // У душы баліць-неадбаліць". А яшчэ згадкі пра гады таталітарызму, пра час, калі падаўлялася любое, нават самае нязначнае праяўленне іншых меркаванняў, чым дазваляліся афіцыйнай ідэалогіяй. Пра ўсё гэта аўтар гаворыць так:

**Мая пакутніца, паэзія,**
**У вёсцы ты ці гарадку,**
**Хіба віна твая, што цэзію**
**Хапае ў слове і радку!**

Хапае, не можа не хапаць...

Часам з'яўляецца адчуванне, што, магчыма, для адной кнігі і зашмат (а яна ж памерам вялікая, ажно дванаццаць улікова-выдавецкіх аркушаў) усяго гэтага "негатыўнага", але перачытаеш верш "Каласы" і зразумееш, адкуль у паэта такое непрыманне зла ў самых розных яго праяўленнях.

Аўтар вяртаецца ў галоднае, бясхлебнае маленства: "Хоць даўно ўжо звезлі // Жытні спеў, // Змалацілі на таку // І ўзважылі, // З каласамі маці і заспеў // Кіраўнік з раёна, // ўпаўнаважаны". Праўда, пашанцавала яшчэ, толькі "прынародна Калымой гразіў // І снягамі лютае // Сібіры". Да расправы ж не дайшло.

Кніга саткана з самога болю і гэткі ж боль выклікае ў тваёй душы. Боль і гнеў. Боль і ачышчэнне. Хаця больш правільна сказаць, што ачышчэнне адбіваецца праз боль. Праўда, ёсць у "Везувіі" і іншае ачышчэнне. Духоўнае. Гэта, калі знаёмішся з раздзелам "Штрыхі да партрэта". Паўстаюць аблічча Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча, Паўлюка Багрыма, тут жа вершы, прысвечаныя М. Аўрамчыку, С. Грахоўскаму, паэту С. Шушкевічу... Нядаўна В. Макарэвічу за гэтую кнігу прысуджана Літаратурная прэмія імя А. Куляшова.

...Толькі тры кнігі паэзіі, якія выйшлі апошнім часам у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Тры з многіх... Была б магчымасць, трэба было б пагаварыць і пра такія з іх, як "Ачышчэнне сяўбой" Змітрака Марозава, "Лагода" Петруся Макаля, "Агні далёкіх гарадоў" Валянціна Лукшы, "Чорная лесвіца" Васіля Зуёнка, "Дняпроўскі бакен" Віктара Яраца...

Ужо тое, што паэзія выдаецца, усцешвае... Але не менш радуе, што паэты ў наш тлумны час не разгубіліся. Знаходзяць свае тэмы. А галоўнае -- пішуць таленавіта!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

*ЗГУКІ ФАЛЬКЛОРНАГА ФЕСТЫВАЛЮ*



# "МАРКЕЛА" З ГАЛАНДЫІ

На Беларусі прайшоў Першы міжнародны фестываль фальклору. Гэтая неардынарная, значная для нашай Бацькаўшчыны падзея адбылася ў старажытным горадзе Пінску, што адметны гістарычнымі помнікамі культуры і архітэктуры, якія адлюстроўваюць побыт і дзейнасць беларускага народа на працягу шматлікіх стагоддзяў.

З Пінска самадзейныя калектывы з розных куткоў Беларусі, з далёкага і блізкага замежжа прыехалі ў Мінск.

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася сустрэча з яркім, самабытным фальклорным калектывам "Маркела" з Нідэрландаў. Цікава і сімвалічна, што назва ансамбля пайшла ад вёскі Маркела, дзе жывуць і працуюць фермеры, якія выхоўваюць у сваіх нашчадках, дзецях і ўнуках, святыя традыцыі свайго старажытнага народа. Характэрна, што з 27 чалавек у калектыве дзевяць сямейных пар. У сценах аднаго са старэйшых музеяў рэспублікі гучала галандская народная песня, што стварыла вельмі цёплую атмасферу адзінства і паразумення, таму што фальклор -- гэта невычэрпная крыніца для натхнення і творчасці. Самадзейныя артысты пазнаёмілі прысутных са сваімі старажытнымі танцамі і песнямі, прытым кожны выхад суправаджаўся расказам пра гісторыю народнага касцюма, пра звычаі і традыцыі, якімі так багаты гэты народ. Фальклор любога народа не мае межаў і ўсім зразумелы. З фальклору пачыналася творчасць Янкі Купалы. Яшчэ з дзяцінства хлопчык захапляўся казкамі, легендамі, паданнямі роднага краю. Маці будучага песняра, Бянігна Іванаўна, хораша спявала, ведала многа народных песень. І гэтая матчына песня на роднай беларускай мове назаўсёды ўвайшла ў душу будучага паэта, нараджаючы самыя чыстыя думкі і спадзяванні.

Госці пазнаёміліся з экспазіцыяй музея, праслухалі лепшыя мелодыі беларускага фальклору, адзначылі прыгажосць і напеўнасць, сакавітасць беларускай мовы, асаблівасці яе нацыянальнага гучання. Супрацоўнікі музея і самадзейныя артысты з Нідэрландаў абмяняліся нацыянальнымі сувенірамі. Гэтая цёплая сустрэча надоўга застанецца ў памяці ўсіх удзельнікаў.

**Людміла ДАВІДОЎСКАЯ.**

# НА КОНКУРСЕ ІМЯ ЧАЙКОЎСКАГА

Незалежныя эксперты, да думкі якіх прыслухоўваюцца ўдзельнікі X Міжнароднага конкурсу імя П.І. Чайкоўскага, высока ацанілі майстэрства маладога беларускага музыканта Андрэя Паначоўнага, залічыўшы яго ў разрад самых перспектыўных юных піяністаў з краін СНД. Андрэй Паначоўны не выйшаў у другі тур, але выкананне ім самых складаных санат Бетховена, якое патрабуе сталага майстэрства, яго шчыры лірызм, асабліва пры выкананні твораў Чайкоўскага, запомніліся.

Потым у Малой зале Маскоўскай кансерваторыі праходзіў конкурс віяланчалістаў. Дваццаць хвілін, адведзеных на выступленне ў першым туры, -- праверка на музыкальнасць, адчуванне стылю і іншыя прафесійныя якасці. І зноў звярнуў на сябе ўвагу малады музыкант з Беларусі -- на гэты раз Мікаэл Самсонаў.

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

# ШЛЯХІ, ЯКІМІ ХОДЗЯЦЬ СУСЕДЗІ

Замоўчваліся ці фальшыва інтэрпрэтаваліся адмоўныя факты нашага суседскага быцця, вяліся размовы толькі пра дадатныя бакі. Такі падыход мог выклікаць стрыманасць і недавер і паступова аддаляў.

-- **Я, магчыма, забягаю са сваёй заўвагай наперад, але мне здаецца, што сваю сумесную з венгерскім пасольствам выставу фотадакументаў "Будапешт -- Познань-1956" вы рыхтавалі якраз з такой думкай.**

-- Фотавыстава "Будапешт -- Познань-1956", што дэманстравалася ў Мінску ў сакавіку гэтага года, адкрывалася з нагоды нацыянальнага свята Венгрыі. Мела на мэце паказаць беларускаму гледачу іншы бок з'явы, якую ён ведаў толькі такой, якой яна асвятлялася ў тагачасным савецкім друку.

-- **Вы маеце на ўвазе падзеі ў Познані і ў Будапешце ў 1956 годзе, якія асвятляліся як адназначна контррэвалюцыйныя!**

-- Так!

-- **Што новага дае нам сённяшняе бачанне тых падзей!**

-- У аснову падзей у Познані лёг эканамічны пратэст рабочых, які толькі ў выніку нечакана гвалтоўных, крывавых дзеянняў улад ператварыўся, як і ў Будапешце, у больш шырокае супрацьстаянне.

Выставу гэту мы паказвалі як трагедыю, супольную з народамі Савецкага Саюза, сыны якога, незалежна ад нацыянальнасці, былі пасланы туды, дзе знайшлі раны і нават смерць, супраць такіх жа, як самі, працоўных і толькі за тое, што тыя хацелі волі!

-- **Якія яшчэ сумесныя культурныя пачынанні вы б хацелі ўзгадаць у гэтай размове!**

-- Тут трэба было б вылучыць такія, у якіх польскае пасольства было ініцыятарам і арганізатарам. Гэта выстава польскай кнігі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, а таксама ўрачыстасці, арганізаваныя беларускімі ўрадавымі і грамадскімі ўстановамі, да ўдзелу ў якіх мы былі запрошаны: святкаванне 200-й гадавіны паўстання Касцюшкі і 175-годдзя з дня нараджэння Станіслава Манюшкі. Але, можа, спачатку некалькі слоў пра выставу польскай кнігі?

-- **У чым асаблівасць гэтай ініцыятывы польскага пасольства!**

-- Перш за ўсё ў тым, што прадстаўленая выстава -- непасрэдны доказ эфектыўнасці эканамічных рэформ, праведзеных у Польшчы. Выбраныя кнігі (1 200 найменняў), галоўным чынам, з галіны гуманітарных навук, выдадзены на працягу 1992-1994 гадоў шматлікімі, у тым ліку і прыватнымі, выдавецтвамі на самым высокім сучасным тэхнічным узроўні.

Па-другое, дзякуючы фонду "Дапамога палякам на Усходзе" ўсе кнігі пасля закрыцця выставы ў якасці падарунка папаўняюць фонды Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь і становяцца даступнымі для чытачоў. У сітуацыі, калі не так лёгка купіць тут кнігу, выдадзеную ў Польшчы, гэта мае для навукі і інфармацыі выключнае значэнне.

Выстава была арганізавана таксама з мэтай наладжвання непасрэдных рабочых кантактаў паміж беларускімі і польскімі выдавецтвамі, якія маглі б выдаваць сумесна альбо ўзаемна не толькі пераклады, але і літаратуру на нацыянальных мовах.

Удалося пры нагодзе папоўніць цікавымі выданнямі і бібліятэку філфака БДУ.

-- **Сведчаннем якіх новых рысаў свядомасці нашых народаў з'яўляецца святкаванне на Беларусі юбілеяў Тадэвуша Касцюшкі і Станіслава Манюшкі!**

-- Перш за ўсё гэта праява беларускага нацыянальнага адраджэння, адной з істотных рысаў якога з'яўляецца патрэба пераасэнсавання мінулага, патрэба звароту да гістарычных каранёў.

Тое, што беларусы ўпісваюць цяпер у сваю гісторыю такія выдатныя постаці, як Касцюшка, Агінскі ці Манюшка -- неадлучныя састаўныя гісторыі польскага народа, выцякае з факта нашага гістарычнага суіснавання спачатку ў рамках Вялікага Княства Літоўскага, а потым у складзе Рэчы Паспалітай.

-- **Амаль адначасовы выбух касцюшкаўскага паўстання ў Кракаве і на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага сведчыць, што ягоныя жыхары, і найперш беларусы, усведамлялі сябе грамадзянамі Рэчы Паспалітай і не жадалі яе разбурэння!**

-- Можна так сказаць. Тым больш, што гэтае паўстанне запачаткавала сумесны вызваленчы рух, аб чым сведчаць наступныя паўстанні: 1830 і 1863 гадоў. Сімвалам апошняга з'яўляецца Кастусь Каліноўскі з яго "Мужыцкай праўдай" і "Лістамі з-пад шыбеніцы".

-- **Ці першы гэта выпадак, калі Беларусь звяртае свой погляд да Манюшкі, як да носьбіта і сваёй культуры!**

-- Не, далёка не першы. Пачатак пакладзены на радзіме Манюшкі ва Убелі больш за дваццаць гадоў таму назад, калі сп. Нічыпаровіч, дырэктар школы ва Убелі, заклаў музей С. Манюшкі, які па сённяшні дзень прафесійна вядзе яго дачка. Пасля адбудовы дома, дзе кампазітар нарадзіўся, музей будзе перанесены туды і ў ім будзе створаны цэнтр музыкі Манюшкі.

Дарэчы, хачу адзначыць дасягненні "Беларускай капэлы" ў папулярызацыі музыкі Манюшкі ў Беларусі і тое, што з яе і музея Манюшкі ініцыятывы выкліканы да жыцця Фонд Манюшкі, які ўзначальвае вядомы спявак Скорабагатаў. Выдатна супрацоўнічае з ім Марыя Фолтын, вядомая польская спявачка і рэжысёр, паклонніца Манюшкі, кіраўнік таварыства Манюшкі ў Варшаве, якое перадало 4 000 долараў на адбудову дома, у якім нарадзіўся кампазітар.

-- **Як ставяцца палякі да існавання беларускага фактара ў біяграфіі і творчасці Манюшкі!**

-- Бачыце, так званаму радавому паляку Манюшка вядомы перадусім як аўтар дзвюх опер -- "Галька" і "Страшны двор" -- тыповы польскі шляхецкі эпізод жыцця. Многія песні Манюшкі, у якіх можна было б знайсці рэмінісцэнцыі беларускага фальклору і музычнай культуры, спяваюцца шырока, але часта без ведання нават яго аўтара -- і яны "пайшлі ў народ"!

Аднак музычна адукаваныя людзі ведаюць, што да першай манюшкаўскай оперы "Сялянка" лібрэта пісаў Дунін-Марцінкевіч на беларускай мове і што пастаўлена яна была ў мінскім тэатры яшчэ ў 1852 годзе.

-- **Завяршаючы гутарку, хачу запытаць, што вы вынеслі з канферэнцыі "Дарога да ўзаемнасці", якая адбылася ў Гродне, адкуль вы толькі што вярнуліся!**

-- Канферэнцыя, арганізаваная ўжо другі раз Саюзам палякаў Беларусі і беластоцкімі беларусамі (першая праводзілася ў мінулым годзе ў Беластоку), на маю думку, прынесла некалькі вельмі важных і цікавых дакладаў (Мальдзіс, Радзік, Кіпель), але не выкарыстала самой нагоды сустрэчы для таго, каб паразважаць у гэтым кірунку і дайсці да нейкіх канструктыўных высноў адносна спраў, звязаных с жыццём нацыянальных меншасцей у суседніх краінах. Арганізатарам хацелася б пажадаць на будучыню пераўтварэння канферэнцыі ў фактычны шлях да ўзаемаразумення, бо толькі такімі шляхамі варта хадзіць суседзям.

**Гутарыла Валянціна КУЛЯШОВА.**

## ШТО НАСІЛІ НАШЫ ПРОДКІ

# СВЕДЧАЦЬ СТАРАЖЫТНЫЯ КУРГАНЫ

Касцюм, які ўключае адзенне, галаўныя ўборы, упрыгажэнні і абутак, з'яўляецца не толькі адным з праяўленняў матэрыяльнай культуры, але гэта таксама і крыніца па вывучэнню этнічнай гісторыі. Пэўныя вынікі ў такім напрамку дае і археалогія, асабліва раскопкі курганоў, дзе пахаванні ўяўляюць сабой комплексы. Па рэштках адзення і галаўных убораў і па размяшчэнню ўпрыгажэнняў удаецца рэканструяваць выгляд касцюмаў. У старажытнасці касцюм абавязкова меў знакавую сістэму, якая дазваляла адрозніваць людзей па этнічнай, сацыяльнай і рэлігійнай прыналежнасці. Касцюм у старажытнасці быў і вонкавым паказчыкам этнічнай самасвядомасці. Асноўнымі носьбітамі этнічных традыцый былі жанчыны, якія нават і ў іншародным асяроддзі захоўвалі элементы сваёй культуры, сярод іх археалогіяй выразна прасочваюцца ўпрыгажэнні. Заўважана, што, трапляючы ў іншае асяроддзе, жанчыны яшчэ ў другім і нават трэцім пакаленнях прытрымліваліся сваіх этнічных упрыгажэнняў.

У XI--XII стагоддзях насельніцтва на тэрыторыі Беларусі было рознаэтнічным. Захоўвалася і шмат балцкіх асяродкаў. Асновай для састаўлення тагачаснай этнічнай карты Беларусі і з'яўляюцца ў асноўным менавіта вынікі раскопак вясковых курганных могільнікаў. Што тычыцца гарадоў, то размову аб іх этнасах весці цяжэй, бо гарадскіх могільнікаў захавалася мала. У гарадах складваліся кангламераты насельніцтва, і на падставе сінтэзу племянных касцюмаў узнікла свая гарадская мода. Яе прыкметамі ў XI--XII стагоддзях сталі шкляныя бранзалеты і пярсцёнкі, металічныя бранзалеты-наручы, скроневыя ўпрыгажэнні-колцы і скураныя сумачкі. Уплывы гарадской моды прасочваюцца і на бліжэйшых да гарадоў курганных пахаваннях сельскага насельніцтва. Знаць жа ў сваім касцюме прытрымлівалася візантыйскіх і заходнеўрапейскіх традыцый.

Асноўнымі часткамі народнага касцюма былі льняная кашуля і паясное адзенне (спадніца-панева ў жанчын і порты ў мужчын) і верхняе адзенне (світы, кажухі, наплечныя пакрывалы). Кашулі вышываліся геаметрычным арнаментам чырвонымі і чорнымі ніткамі. Часта адзенне расшывалася бронзавымі спіральнымі пранізкамі ці бляшачкамі або бісерам, каўнер і манжэты ўпрыгожваліся шаўковай тканінай. Значную ролю як у жаночым, так і ў мужчынскім касцюме адыгрываў пояс: скураны, тканы, плецены, шаўковы і інш. На паясах насіліся спражкі, часцей падкովападобныя. Да паясоў падвешваліся амулеты і асабліва часта нажыкі. Абутак ў вясковых пахаваннях амаль што невядомы, але ў гарадах знаходзяць шмат рэшткаў скуранога абутку, у тым ліку і вышыванага. Такі факт хутчэй за ўсё звязаны са звычаем хаваць нябожчыка ў шкарпэтках ці лапцях.

Самым важным этнавызначальным элементам былі жаночыя галаўныя ўборы. Да галаўных убораў (вяночкаў у дзяўчат і чапцоў у замужніх жанчын) прымацоўваліся ці прышываліся металічныя скроневыя колцы, якія і былі асноўнай прыкметай этнасу. Па картаграфіраванню скроневых колцаў можна прасачыць, куды траплялі жанчыны з таго ці іншага раёна. Так, полацкія крывічанкі насілі бранзалетападобныя скроневыя колцы, радзімічанкі -- сяміпрамянёвыя, дрыгавічанкі -- пярсцёнкападобныя колцы з напускнымі зярнёнымі пацеркамі, у Панямонні былі распаўсюджаны скроневыя колцы са спіралепадобнымі завіткамі і інш.

Калі этнографы часта касцюм таго ці іншага раёна вызначаюць па вышыўцы, то касцюм XI--XII стагоддзяў -- па набору металічных упрыгажэнняў. Акрамя згаданых скроневых колцаў ёсць і яшчэ шэраг рысаў для таго ці іншага рэгіёна. Так, для полацкіх крывічоў асабліва характэрная шматлікасць упрыгажэнняў -- падкովападобныя фібулы, вітыя шыйныя грыўны з петлепадобнымі канцамі, заамарфныя бранзалеты, бразготкі, золата-шкляныя пацеркі. Характэрнай рысай крывічанскага жаночага касцюма былі каралі, дзе пацеркі спалучаліся з металічнымі бразготкамі. Вылучаецца тры комплексы касцюма крывічанак: з бранзалетападобнымі колцамі, з пярсцёнкападобнымі і без скроневых колцаў. Першыя -- па набору ўпрыгажэнняў, што характэрна для балтаў, а ў трэціх наогул шмат балцкіх упрыгажэнняў. У Паазер'і частыя і знаходкі тыпова балцкіх галаўных вяночкаў (вайнагаў), састаўленых са спіральных пранізак у спалучэнні з бляшкамі і цісненнем арнаментам. Такія вяночкі ёсць у Браслаўскім, Міёрскім, Талачынскім і Шклоўскім раёнах, менавіта ў тых месцах, дзе яшчэ і ў сярэднявеччы былі балцкія астраўкі. Цікава, што да некаторых вайнагаў падвешваліся скроневыя колцы, якія лічацца славянскімі ўпрыгажэннямі. Такія факты яскрава сведчаць аб балта-славянскай гібрыднасці касцюма. Своеасаблівасцю вызначаецца і касцюм крывічанскіх мужчын. Для яго таксама характэрная шматлікасць упрыгажэнняў -- падковападобныя фібулы, паясныя колцы, ліраподобныя спражкі, пярсцёнкі, абшыванне адзення і галаўных убораў металічнымі пранізкамі. Адметныя ўпрыгажэнні склаліся і ў радзімічаў. Акрамя сяміпрамянёвых скроневых колцаў, гэта колападобныя фібулы з шарападобнымі галоўкамі, каралі са шкляных пацерак у спалучэнні з падвескамі, а таксама шыйныя пласцінчатыя грыўны і грыўны з разеткападобнымі бляхамі на зыходзячых канцах. Заамарфных бранзалетаў у радзімічаў менш, а нажыкі часцей насіліся не на поясе, падвешваліся на ланцужках, якія прымацоўваліся да адзення каля пляча. Прыналежнасцю мужчынскага касцюма радзімічаў, як і ў крывічоў, былі падковападобныя фібулы, паясныя колцы і ліраподобныя спражкі, але бранзалеты ўжо сустракаюцца менш.

У XI--XII стагоддзях вылучаюцца і агульныя рысы касцюма для ўсёй тэрыторыі Беларусі. Для жаночага касцюма гэта нажыкі (на поясе ці на ланцужку каля пляча), вітыя шыйныя грыўны, заамарфныя бранзалеты, шмат бразготак, спалучэнне ў адным касцюме балцкіх і славянскіх рэчаў і наогул шматлікасць металічных упрыгажэнняў. Для мужчынскага касцюма гэта наяўнасць бранзалетаў, падковападобных фібул, пярсцёнкаў, абшыванне адзення і галаўных убораў металічнымі спіральнымі пранізкамі.

Адметнасць беларускага народнага касцюма і яго рэгіянальныя асаблівасці пачалі фарміравацца менавіта ў XI--XII стагоддзях і мелі балта-славянскія карані. Праца ў напрамку супастаўлення археалагічных і этнаграфічных даных несумненна ўяўляе цікавасць для вывучэння вытокаў беларускага народнага касцюма як вонкавага праяўлення этнічнай свядомасці.

**Людміла ДУЧЫЦ.**

## ПА ЎСЁЙ РЭСПУБЛІЦЫ

Калі пагасла святло і пайшлі фрагменты з фільмаў "Людзі на балоце", "Асеннія сны", "Белыя Росы", "Развітанне", гледачы заапладзіравалі. А калі на памост кінатэатра "Масква" ў Мінску выйшлі Стэфанія Станюта і Павел Кармунін, яшчэ некалькі дзесяткаў акцёраў, рэжысёраў, апаратараў, мастакоў, людзі ў зале падняліся з крэслаў. Ішла сустрэчная хваля даверу, любові, удзячнасці. Як казаў потым адзін з акцёраў: "Надакучыў нашаму гледачу "Анкл Бэнс", захацелася беларускага сала".

Пацвярджаюць гэтае адчуванне і сустрэчы беларускіх кінематаграфістаў у раённых гарадах Магілёўскай, Віцебскай, Мінскай абласцей ды і ў самім Мінску. Доўга сумавалі гледачы па святу кіно ды і проста па "сваіх" фільмах: распытваюць пра ўсё, што адбываецца ў свеце кіно і наогул у беларускім мастацтве.

Студыя "Кадр-2" Саюза кінематаграфістаў Беларусі ўжо колькі гадоў запар марыла пра фестываль па ўсёй рэспубліцы. Але ажыццявіць яго змагла толькі зараз дзякуючы значнай фінансавай падтрымцы Міжнароднага цэнтра палітычных і эканамічных даследаванняў. Сёе-тое выдзеліла фірма "Действительность".

Толькі такім -- фестывальным -- чынам змогуць дайсці да аматараў беларускіх фільмаў (а яны ёсць, гэта пацвердзілі некалькі сацыялагічных даследаванняў) новыя стужкі "Хэпі-энд" Б.Гарошкі і У.Арлова, "Чорны бусел" В.Турава, "Душа мая, Марыя" В.Нікіфарава, "...Аз воздам" М.Касымавай і Б.Шадурскага, дзіцячыя карціны "Вогненны стралок", "Белае возера".

Акрамя прэм'ер па ўсёй рэспубліцы з 10 па 20 чэрвеня прайшлі фільмы мінулых гадоў (усяго сорак з лішкам). Дарэчы, гледачы з цікавасцю сустрэлі стужку па твору Васіля Быкава, якая мала вядомая -- "Круглянскі мост" А.Мароза.

Фестываль "Кіно і час" быў прысвечаны 70-годдзю беларускага кіно, якое будзе святкавацца ў снежні гэтага года, і 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.



## АДРАДЖЭННЕ ЕПАРХІІ

Гісторыя Пінскай праваслаўнай епархіі вядзе свой пачатак ад хрышчэння Русі, з часоў вялікага князя Уладзіміра. Тады і быў заснаваны на берагах Піны славуты Ляшчынскі манастыр. У XYI--XYII стагоддзях у Пінску пачаўся росквіт праваслаўя. Тут дзейнічалі 18 цэркваў і тры манастыры.

У 1520 годзе, калі дынастыя пінскіх праваслаўных князёў перарвалася і пачала сваё кіраванне польская каралева Бона, стала ўзмоцнена насаджацца каталіцтва. І толькі ў пачатку XX стагоддзя, у 1918 годзе, была зноў утворана Пінская праваслаўная епархія. Але праіснаваць ёй давялося нядоўга. Да саракавых гадоў яна зноў была ліквідавана, а ўжо пасля вайны і зусім занялала. Цэрквы зачыняліся, многія з іх пераабсталёўваліся пад складскія памяшканні, кінатэатры.

Аднак у апошняе пяцігоддзе пачалося адраджэнне епархіі. Узначаліў яе епіскап Стэфан, былы настаяцель вядомага Жыровіцкага манастыра. Царкве вернуты будынкі, што належалі ёй раней, яны цяпер узнаўляюцца і рэстаўрыруюцца, набываючы свой першапачатковы выгляд. У пінскім мікрараёне Лугі будуецца і новая царква. А ўсяго епархія цяпер аб'ядноўвае на Палессі 140 прыходаў.

НА ЗДЫМКАХ: былы кінатэатр "Дружба" неўзабаве стане епархіяльным храмам. Епіскап Пінскі і Лунінецкі СТЭФАН часта сам кіруе будаўнічымі работамі; у Пінску пачаў дзейнічаць жаночы манастыр. У ім пакуль усяго шэсць манашак і паслушніц. Узначальвае манастыр матушка ТАЦЦЯНА (у цэнтры), родам з вёскі Каладзевічы Пінскага раёна. У манастве яна ўжо 14 гадоў, пяць з іх прабыла ў вядомым на ўвесь свет Іерусалімскім манастыры.

Фота Эдуарда КАБЯКА.



# "БАБУЛЯ РАСІЙСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ"

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).

У 1914 годзе 70-гадовая Кацярына Канстанцінаўна спрабуе ўцячы з Іркуцкага астрога, але няўдала. Следам -- высылка ў Якуцк. Тады (з-за хваробы) жанчыну вяртаюць у Іркуцк. І ўжо з 1916 (да самай Лютаўскай рэвалюцыі) -- пасяленне ў Мінусінску.

Незвычайным быў для Кацярыны Канстанцінаўны дзень 4 сакавіка 1917 года. З раніцы жанчына прыбралася ў сваім пакоі. Расклала на стале апошнія газеты. Цяжка было ў глушы зразумець, што ж робіцца там, у цэнтры. Што ў Петраградзе, у Маскве?.. Раптам за дзвярыма пачулася сцішаная гаворка. Кацярына Канстанцінаўна нічога не паспела падумаць, як раздаўся спакойны стук. Дзверы адчыніліся.

...-- Дазвольце, -- у пакой уваходзіла купка мужчын, якія пачціва павіталіся.

-- Добры дзень, шаноўныя. Чым абавязана? -- Кацярына Канстанцінаўна прыўзнялася ў крэсле.

-- Мы прадстаўляем Мінусінскую гарадскую думу і прыйшлі вітаць вас з перамогай рэвалюцыі. Ідэі, за якія вы змагаліся ўсё жыццё, пераможна крочаць па Расіі. Мы гатовы садзейнічаць вашаму найхутчэйшаму вяртанню ў цэнтр.

"Бабуля расійскай рэвалюцыі" падзякавала і стрымана праслязілася. Што падумала жанчына ў тую хвіліну? Што ўспомніла? Маленства, юнацтва, першыя крокі рэвалюцыйнай барацьбы? Першыя свае тры астрожныя гады? Пасяленне ў Баргузіне? Вымушаную эміграцыю? Петрапаўлаўскі астрог?..

Трыумфам стала вяртанне Брэшка-Брашкоўскай у еўрапейскую Расію. Мінусінцы выдзелілі паліткатаржанцы спецыяльны вагон. А ў канцы красавіка Кацярыну Канстанцінаўну ўрачыста вітала Масква. Сустрэчы былі наладжаны ў гарадской Думе, у Савеце рабочых дэпутатаў, Камітэце грамадскіх арганізацый. Брэшка-Брашкоўская распачынае актыўную працу па падтрымцы Часовага ўрада. Праводзіць агітацыйныя паездкі па краіне. Абараняе Керанскага ад нападак. Кацярына Канстанцінаўна лічыць, што ён "ёсць грамадзянін, які сваім рашучым і мужным словам і спосабам дзеянняў выратаваў Расію ў рэвалюцыйныя дні лютаўскага перавароту".

Па прапанове Керанскага ў Петраградзе Кацярына Канстанцінаўна пасяляецца ў Зімнім палацы. "Бабуля расійскай рэвалюцыі" піша сваю аўтабіяграфію, рыхтуе серыю брашур. У рабоце "Што рабіць ва Устаноўчым Сходзе?" Брэшка-Брашкоўская дае дэпутатам наказ паслядоўна ажыццяўляць палажэнні эсэраўскай праграмы. А гэта азначае: барацьба за дэмакратычную рэспубліку, ажыццяўленне лозунга: "Уся зямля -- народу", сацыялізацыя зямлі, роўнасць усіх нацыянальнасцяў, усеагульная абавязковая адукацыя...

На І Усерасійскім з"ездзе Саветаў сялянскіх дэпутатаў Кацярыну Канстанцінаўну выбіраюць у Выканком Усерасійскага Савета сялянскіх дэпутатаў. У артыкуле "Контррэвалюцыі няма месца" Брэшка-Брашкоўская пісала: "...наш народ цвёрда вырашыў пакінуць за сабой права... на пераход усяе зямлі ад прыватнай уласнасці ў грамадскую. Ён не развітаецца з гэтым правам ні пры якіх умовах, і калі ўзнікнуць спробы контррэвалюцыі, то гэта прывядзе толькі да кровапраліцця, ні ў якой ступені не забяспечваючы перамогі ворагам народа".

Актыўна выступаючы ў друку, старая рэвалюцыянерка ўмешвалася ва ўсе аспекты тагачаснага грамадска-палітычнага жыцця. Пісала і пра сваё стаўленне да першай сусветнай вайны, заклікала да аб"яднання дзеля выратавання Радзімы.

А вось кастрычніцкі пераварот наша зямлячка катэгарычна не прыняла. У лістападзе 1917 года Кацярына Канстанцінаўна адмовілася ад пасады ганаровага старшыні Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. На IY з'ездзе калегі па партыі абвінавацілі "бабулю расійскай рэвалюцыі" ў тым, што па сваіх поглядах яна значна "папраўела". Кацярына Канстанцінаўна адхіліла гэтыя абвінавачванні, падкрэсліўшы, што, наадварот, захоўвае ў чысціні вучэнне сваіх папярэднікаў, выказала шкадаванне, што партыя разраслася за кошт маральна нездаровых, чужых высокім ідэям людзей.

І здароўе, і традыцыйную "левую" рэвалюцыйнасць Брэшка-Брашкоўскай канчаткова падарваў Брэст-Літоўскі мір. Жанчына зноў перайшла на нелегальнае становішча.

Улетку 1918 года Кацярына Канстанцінаўна ўдзельнічала ў рабоце антыкамуністычнага ўрада ў Самары, а ў верасні -- ва Уфімскай дзяржаўнай нарадзе. У 1919 годзе эмігрыравала ў ЗША, потым у Францыю і ў 1924 годзе -- у Чэхаславакію. У прадмесці Прагі ў вёсцы Хвалы-Пачэрніца 12 верасня 1934 года на 91-м годзе жыцця памерла наша зямлячка.

Такі вось лёс забытай зараз усімі "бабулі расійскай рэвалюцыі", асобы бясспрэчна неардынарнай, дальнабачнай, гераічнай і мужнай.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.




Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").





НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ

Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
Тыраж 6 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 953.
Падпісана да друку 4. 7.1994 г.